2017

# «ШПАЦЫР ПА ПАМЯЦІ»

Метадычныя рэкамендацыі



Складальнікі : Люба Шындэр
Сяргей Кульчэвіч
Таццяна Касатая

Пераклад з англійскай мовы: Ганна Паўлоўская

Вёрстка і дызайн: Ксенія Харчанка

Дом Анны Франк (Anne Frank House),
Беларускі архіў вуснай гісторыі

# ЗМЕСТ

# УВОДЗІНЫ

Мы рады прадставіць Вашай увазе Дапаможнік для Шпацыру па Памяці для выкладчыкаў і настаўнікаў, якія хочуць цікава і з заангажаваннем абмяркоўваць з маладымі людзьмі гісторыю, спадчыну і памяць.

Навучальны матэрыял дапаможа абмяркоўваць помнікі і заахвоціць маладых людзей задаваць пытанні да спрэчных гістарычных падзей. Выданне можна выкарыстоўваць у фармальнай і нефармальнай адукацыі моладзі ва ўзросце ад 15 да 25 гадоў.

**Уводзіны**

*Аляксей Братачкін, кіраўнік Цэнтра публічнай гісторыі Еўрапейскага каледжа Liberal Arts у Беларусі (ECLAB)*

**Гісторыя XX ст. і гістарычная памяць у Беларусі сёння**

Гісторыя Беларусі з'яўляецца часткай еўрапейскай гісторыі, у якой важную ролю заўсёды адыгрывала рэфлексія пра ўласнае мінулае, што прымала перыядычна форму палітычнай барацьбы.

У кожным грамадстве розныя актары (палітычны рэжым і дзяржаўныя інстытуты, грамадскія і палітычныя аб'яднанні, гісторыкі і інш.) спрабуюць уплываць на тыя вобразы "нацыянальнай гісторыі", якія распаўсюджаны ў масавай свядомасці людзей.

Пэўныя падзеі і асобы гістарычнага мінулага становяцца годнымі таго, каб быць прадстаўленымі ў публічнай прасторы, школьных падручніках, музеях, масавай культуры. І адначасова з памяці нацыянальных супольнасцей выцясняюцца тыя аспекты гісторыі, якія могуць негатыўна ўплываць на калектыўную ідэнтычнасць і ствараць вобраз непрымальнага з маральных ці іншых прычын мінулага.



Палітыка памяці (спроба вызначыць тыя аспекты гісторыі, якія прадстаўляюцца нацыянальна значнымі і іх трэба захаваць, а таксама тыя, якія варта забыць) мае розны характар у дэмакратычных і недэмакратычных грамадствах. У дэмакратычным грамадстве дэбаты пра гістарычнае мінулае характарызуюцца адкрытасцю, у іх удзельнічаюць усе зацікаўленыя групы, у тым ліку прафесійныя гісторыкі.

У недэмакратычным грамадстве палітыка памяці ніколі не з'яўляецца вынікам дэмакратычнага кансэнсусу. Часта гэта спроба палітычных груп навязаць грамадству адну з версій гісторыі і ігнараваць альтэрнатыўныя інтэрпрэтацыі. Гэта таксама прыводзіць да таго, што з палітычнай і публічнай прасторы выключаюцца цэлыя сацыяльныя групы носьбітаў такіх альтэрнатыўных інтэрпрэтацый.

***«У пасляваенны час практычна нічога не гаварылася пра асобную памяць, звязаную з падзеямі Халакосту на акупаванай тэрыторыі СССР. Яна замянялася канцэпцыяй агульнай савецкай памяці.»***

Палітычная барацьба, звязаная з праблемамі інтэрпрэтацыі гістарычнага мінулага часта з'яўляецца маркерам існуючага разрыву паміж "камунікатыўнай" (жывой і індывідуальнай) памяццю сведкаў і тым, што тэарэтыкі Ян і Алейда Асманы (Jan, Aleida Assmann) называюць "культурнай памяццю", гэта значыць той версіяй калектыўнай памяці, якая актыўна падтрымліваецца рознымі актарамі і інстытутамі ў публічнай прасторы, яна ўвасоблена ў помніках, музеях і назвах вуліц. Часам сведкі і ўдзельнікі гістарычных падзей, або іх нашчадкі ствараюць розныя аб'яднанні ("супольнасці памяці") і пачынаюць дамагацца таго, каб іх версія падзей мінулага, іх камунікатыўная памяць таксама атрымала прызнанне ў публічнай прасторы і грамадстве, стала часткай "культурнай памяці".

Гісторыя Беларусі ў ХХ ст. мае не толькі вялікую колькасць важных і траўматычных падзей і перыядаў, але і прапаноўвае нам прыклады палітычнай барацьбы за прызнанне таго ці іншага вобраза гісторыі і вобраза мінулага ў якасці значнага або прызначанага для забыцця. Рэвалюцыі пачатку ХХ ст., стварэнне Беларускай Народнай Рэспублікі (БНР) і Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі (БССР), дзве сусветныя вайны і Халакост, сталінскія рэпрэсіі, вопыт падзеленай нацыі ў 1921 – 1939 гг. (існаванне БССР і Заходняй Беларусі ў складзе другой Рэчы Паспалітай), пасляваенны час і распад СССР – усе гэтыя падзеі па сённяшні дзень выклікаюць спрэчкі ў беларускім грамадстве.

У незалежнай Беларусі (пасля 1994 г.) дзяржаўная ўлада спрабуе стварыць мадэль калектыўнай ідэнтычнасці, якая пабудавана на адсылцы да памяці пра Другую сусветную вайну (з выкарыстаннем тэрміна савецкага часу – "Вялікая Айчынная вайна"). Назвы вуліц, шматлікія помнікі і мемарыялы ў Беларусі звязаны менавіта з гэтым перыядам гісторыі.



*Група за працай над відэа. Мінск 2015*



Адразу пасля заканчэння Другой сусветнай вайны ў 1945 г. памяць пра яе ў БССР (як і ва ўсім Савецкім Саюзе) падвяргалася значнай цэнзуры. У мемарыялізацыі ваенных падзей фактычна выключалася і рэдагавалася памяць шэрагу сацыяльных груп: ваеннапалонных; вывезеных на прымусовыя працы ў Германію остарбайтараў; удзельнікаў некамуністычнага супраціву нацыстам, у тым ліку Арміі Краёвай (на тэрыторыі Заходняй Беларусі); насельніцтва, якое засталося на акупаванай немцамі тэрыторыі; удзельнікаў габрэйскіх партызанскіх атрадаў; вязняў лагераў; забітых пацыентаў псіхіятрычных аддзяленняў; вернікаў і інстытутаў розных канфесій. Таксама не быў дакладна даследаваны феномен калабарацыі.

Гэта памяць супярэчыла афіцыйнаму канону гісторыі "Вялікай Айчыннай вайны", які ўключаў у сябе ідэі ўсенароднага супраціву ворагу, кіруючай ролі камуністычнай партыі і масавага гераізму. Паступова асноўны змест гэтага канона склаў набор стэрэатыпных рытуалаў, вобразаў і рытарычных штампаў на працягу позняга савецкага перыяду.

***«Дыялог пра гістарычнае мінулае напярэдадні і адразу пасля распаду Савецкага Саюза стаў адной з цэнтральных тэм публікацый у СМІ. Пачалося адкрытае абмеркаванне савецкай гісторыі.»***

У 1960-я – 1970-я гг. у БССР з'явіліся самыя вядомыя мемарыялы, прысвечаныя падзеям вайны.
Гэта, напрыклад, мемарыяльныя комплексы ў Хатыні і Брэсцкай крэпасці. Новая эстэтыка помнікаў была арыентавана на манументальнасць і крайне абагульненае адлюстраванне подзвігу і пакутаў, якое адсылала не столькі да асабістага, колькі да калектыўнага і ідэалагізаванага ўзроўню ўспрымання.
С сярэдзіны 1960-х гг. у новым будынку ў Мінску працягваў сваю працу вялізны Музей Вялікай Айчыннай вайны, экспазіцыя якога таксама мела ідэалагічную функцыю.

У пасляваенны час практычна нічога не гаварылася пра асобную памяць, звязаную з падзеямі Халакосту на акупаванай тэрыторыі СССР. Яна замянялася канцэпцыяй агульнай савецкай памяці. А загінуўшае габрэйскае насельніцтва абазначалася на помніках у якасці “мірных савецкіх грамадзян”. Таксама не звярталася ўвага на памяць пра генацыд цыганоў.

У перыяды лібералізацыі савецкага палітычнага рэжыму з’яўляліся кнігі і фільмы, якія прыадчынялі карціну “іншай” вайны, схаванай за канонам афіцыйнай гісторыі. У 1966 г. на зыходзе так званай “адлігі” кінастудыяй “Беларусьфільм” была знята кінастужка “Усходні калідор” (“Восточный коридор”), рэжысёрам быў Валянцін Вінаградаў. Праз два гады гэты фільм быў адпраўлены на паліцу. У ім можна было ўбачыць практычна адзіную сцэну адлюстравання падзей Халакосту ў перыяд вайны. Вялікі пласт жаночага вопыту перажывання вайны пачаў актыўна абмяркоўвацца пасля 1985 г. (праз 40 гадоў пасля заканчэння вайны), калі была надрукавана з цэнзурнымі праўкамі кніга Святланы Алексіевіч “У вайны не жаночы твар”.

Пасля распаду СССР у 1991 г. фарміраваліся розныя супольнасці памяці, задача якіх заключалася ў актуалізацыі ў публічнай прасторы ўспамінаў шэрагу забытых груп. У пачатку 1990-х гг. з’явіліся першыя публікацыі ў незалежнай Беларусі, прысвечаныя лёсам габрэяў падчас Другой сусветнай вайны і памяці пра Халакост. Пры дапамозе міжнародных габрэйскіх арганізацый пачалося ўсталяванне памятных знакаў, якія “распавядалі” пра расстрэлы габрэяў. Помнікі і мемарыяльныя знакі ахвярам Халакосту пачатку XXI ст. ужо створаны ў новай эстэтыцы: яны не манументальныя, суразмерныя чалавеку і схіляюць да асабістай эмпатыі і ўспрымання, адлюстроўваюць габрэйскую рэлігійную традыцыю памяці.

Таксама пачалася публікацыя матэрыялаў пра тыя аспекты Другой сусветнай вайны, якія раней ігнараваліся. Змянілася экспазіцыя музея Вялікай Айчыннай вайны ў



Мінску, у яе былі ўключаны тэмы ваеннапалонных, остарбайтаў і інш.

Дыялог пра гістарычнае мінулае напярэдадні і адразу пасля распаду Савецкага Саюза стаў адной з цэнтральных тэм публікайцый у СМІ. Пачалося адкрытае абмеркаванне савецкай гісторыі: пачынаючы ад перыяду сталінізму і да інтэрпрэтацыі вайны ў Афганістане, а таксама наступстваў аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. Але ў другой палове 1990-х гг. гэты дыялог быў спынены.

У канцы 1980-х – пачатку 1990-х гг. з’явіліся новыя “месцы памяці”, звязаныя з траўматычнымі падзеямі гісторыі XX ст., у тым ліку з перыядам сталінскіх рэпрэсій (напрыклад, урочышча Курапаты пад Мінскам). Пазней узнікла пытанне пра захаванасць помнікаў і могілак часоў Першай сусветнай вайны і іншых гістарычных перыядаў.

***«У мемарыялізацыі ваенных падзей фактычна выключалася і рэдагавалася памяць шэрагу сацыяльных груп.»***



*Трэнінг -Шпацыр па памяці-, дыскусія ў групе. Мінск 2015*

Першыя матэрыялы ўжо створаныя ў Беларусі ў межах праекта “Шпацыр па памяці” адлюстроўваюць існуючыя канфліктныя зоны калектыўнай памяці, якія звязаны з гісторыяй ХХ ст. Сімвалічны ландшафт Беларусі напоўнены знакамі былога савецкага мінулага. Аднак у грамадстве і ў палітычных эліт няма выразнага ўяўлення пра тое, што рабіць з гэтай “спадчынай”.

У краінах Усходняй Еўропы ў посткамуністычны перыяд былі распрацаваны тры стратэгіі абыходжання з савецкімі мемарыяламі  і помнікамі: стратэгія дэмантажу, стратэгія стварэння тэматычных паркаў (экспанаванне савецкіх помнікаў у адным месцы) і стратэгія перакадзіравання сэнсаў  помнікаў  з дапамогай выкарыстання магчымасцей сучаснага мастацтва і рэсурсаў гістарычнай навукі. Беларусі яшчэ трэба будзе зрабіць выбар стратэгіі. У 1990-я – 2000-я гг. са смерцю ветэранаў Другой сусветнай вайны паступова знікае і камунікатыўная памяць сведкаў падзей той эпохі, з распадам савецкага кантэксту ўзнікае разрыў паміж створанымі ў савецкі час “месцамі памяці” і іх інтэрпрэтацыямі сярод маладога пакалення беларусаў.

Асноўная праблема заключаецца ў вырашэнні супярэчнасці паміж савецкай “гераічнай парадыгмай” памяці пра Другую сусветную вайну і працай са складанымі пытаннямі і негатыўнымі аспектамі памяці пра яе, якія не ўпісваюцца ў гэтую парадыгму. Новы грамадскі кансэнсус у культуры памяці павінен будзе ўлічваць і спадчыну савецкай палітыкі памяці і новыя веды пра вайну, захоўваючы гонар тых, хто перажыў яе вопыт.

Чаму нас можа навучыць памяць пра гісторыю ХХ ст. і яе траўматычныя перыяды? У сучасных грамадствах мы сутыкаемся таксама з практыкамі сацыяльнага выключэння і дыскрымінацыі са з’яўленнем новых фігур “іншых”, у якасці якіх выступаюць людзі рознага этнічнага паходжання, з рознымі ідэнтычнасцямі, з розным сацыяльным статусам, людзі, якія сталі ахвярамі ваенных дзеянняў і імкнуцца знайсці прытулак за межамі сваіх краін.



Менавіта практыкі сацыяльнага выключэння і дыскрымінацыі былі цэнтральнымі ў гісторыі палітычных рэжымаў ХХ ст. і прывялі (сярод іншых прычын) да агульначалавечых катастроф двух сусветных войн, Халакосту і шматлікіх ахвяр.

Праца з мемарыяльнымі аб’ектамі, прыкладамі камунікатыўнай і культурнай памяці ў Беларусі ў межах праекта “Шпацыр па памяці” дазваляе нам зразумець сваё ўласнае грамадства, сваю ўласную гісторыю і знайсці ўласныя спосабы дэмакратызацыі памяці і грамадскага жыцця, барацьбы з практыкамі сацыяльнага выключэння і дыскрымінацыі.

Гэта дапаможа стварыць такую культуру памяці ў Беларусі, якая не стане “этнацэнтрычнай” або пабудаванай на іерархіі памяці розных груп і супольнасцей, хаця б таму, што яна першапачаткова ўключае ў сябе разнастайнасць вопыту, якую неабходна сёння раўназначна прадставіць, у тым ліку ў публічнай прасторы.



*Удзельнікі трэнінгу падчас здымкі відэа. Мінск, 2015*

**Радавод Шпацыру па памяці**

З 2012 года Дом Анны Франк заангажаваны ў развіццё канцэпту Шпацыру па памяці ў супрацоўніцтве з партнёрскімі арганізацыямі па ўсім свеце. Канцэпцыя ўключае трэнінг па падрыхтоўцы адукацыйных фільмаў, скіраваны на тое, каб дапамагчы ўдзельнікам асэнсаваць грамадскую культуру памяці.

З 2012 па 2016 гады пры ўдзеле моладзі і маладымі людзьмі было створана больш за 50 кароткаметражных фільмаў (кліпаў), у гэты працэс былі заангажаваныя сотні ўдзельнікаў з розных краін.

Напачатку трэнінг праводзіўся як нефармальная ініцыятыва і быў разлічаны на 3–5 дзён. Аднак хутка выявілася патрэба перапрацаваць матэрыялы, каб яны маглі быць прыдатнымі таксама выкладчыкам і настаўнікам у фармальнай адукацыі ў семінарах больш кароткага фармату.

**Чаму менавіта помнікі?**

Помнікі звычайна скіраваныя да будучых пакаленняў, аднак падчас прыняцця рашэнняў, іх узвядзення і захавання памяці забываюць звычайна менавіта пра моладзь. У той жа час маладыя людзі часта не адчуваюць сябе ні падрыхтаванымі, ні зацікаўленымі ў гэтых зацвярдзелых ці прапісаных успамінах, якія, здаецца, датычаць толькі мінулага.

Мэта трэнінгу Шпацыр па памяці – паказаць, што помнікі кажуць нам столькі ж пра праблемы сённяшняга дня, колькі і пра пакуты мінуўшчыны. Яны кажуць нам, хто мы і адкуль прыйшлі, дапамагаюць акрэсліць, што лічыцца больш (ці менш) важным для памяці. Назвы вуліц, памятныя шыльды і помнікі могуць выявіць спрэчныя гісторыі і няроўныя ўладныя адносіны, калі адсутныя ў грамадскай прасторы гісторыі становяцца такімі ж вымоўнымі.



Шпацыр па памяці дапамагае інфармаваць маладых людзей пра ключавыя гістарычныя падзеі і дазваляе ім выказваць супраціў дамінуючай ідэалогіі і гісторыі (адсутных) помнікаў. Праз творчыя, крытычныя і інавацыйныя практыкаванні яны маюць магчымасць атрымаць не толькі гістарычныя і культурныя веды, лічбавыя і сацыяльныя кампетэнцыі, а таксама даведацца пра ўласную адказнасць і ролю ў захаванні памяці.

**Перадумовы канцэпцыі**

Паміж 2012 і 2015 гадамі трэнінг Шпацыр па памяці быў праведзены ў 14 краінах і прычыніўся да стварэння 50 кароткаметражных фільмаў. Вывучэнне помнікаў адначасова з творчым заангажаваннем маладых удзельнікаў аказалася выдатным спалучэннем.

Гэта не азначае, аднак, што канцэпцыя ўжо цалкам распрацаваная. На падставе інтэрв'ю з экспертамі, настаўнікамі і ўдзельнікамі мы выбралі некалькі лепшых практыкаванняў і поглядаў для разважання. Выказванні былі зробленыя людзьмі, якія ўжо мелі досвед удзелу ў трэнінгу. Спадзяемся, гэта дасць уяўленне пра працэс стварэння Шпацыру па памяці.

Калі Вы захочаце адказаць на нейкія з выказванняў або пракаментаваць іх на падставе Вашага досведу, калі ласка, пішыце ў Дом Анны Франк

***memorywalk@annefrank.nl***

**Праект «Шпацыр па памяці» дапамог зразумець, што трэба раскрываць двухсэнсоўнасць некаторых помнікаў (напрыклад, савецкага або постсавецкага перыядаў), якія без усведамлення іх паслання і значнасці для сучаснасці шануюцца людзьмі.**

*Ангеліна Марцішэўская*
*Удзельніца праекта ў Гродне*

### Структура Дапаможніка

Асноўны змест Дапаможніка складаюць практыкаванні, адаптаваныя для выкарыстання падчас школьных заняткаў у класе (45–90 хвілін). Гэтая частка падзяляецца на ўводныя практыкаванні (напрыклад, “Што гэты помнік азначае для цябе?”), асноўныя практыкаванні (напрыклад, “Біяграфія помніка”) і хатнія практыкаванні (напрыклад, “Мясцовая экскурсія па помніках”).

Гэты падзел дазваляе звярнуць увагу на рэпрэзентацыю гісторыі, эстэтыку помнікаў, розныя інтэрпрэтацыі помнікаў звычайнымі людзьмі або на мясцовыя (вусныя) гісторыі. Узятыя разам гэтыя практыкаванні складаюць 5-дзённы семінар Шпацыр па памяці, але яны могуць выкарыстоўвацца таксама паасобку.

Дапаможнік заканчваецца аглядам выбраных вэб-сайтаў і крыніц, якія могуць дапамагчы паглыбіць разуменне навучальнага працэсу ўвекавечвання памяці/камемарацыі.

**Праект «Шпацыр па памяці» вельмі важны інструмент для разумення мінулага. Мы прызвычаіліся чытаць падручнікі або гістарычныя кнігі, і нас не вучаць сумнявацца. Дзякуючы праекту ў кожнага з нас ёсць магчымасць усумніцца і праверыць інфармацыю, бо вусныя гісторыі людзей часта адкрываюць зусім іншую карціну.**
**Таму так важна, што менавіта моладзь прымае ўдзел у праекце, пачынае сумнявацца і крытычна мысліць, атрымоўвае магчымасць сабраць розныя меркаванні і прэзентаваць вынікі сваёй працы ў выглядзе відэароліка.**

**Аліна Дзеравянка,**
**намесніца дырэктара па праектах**
**Фонд развіцця Брэсцкай крэпасці**



## Практыкаванні

Дапаможнік складаецца з практыкаванняў 3 тыпаў:

**Уводзіны ў тэму**

**Асноўны змест**

**Хатняе заданне**

Разам гэтыя практыкаванні складаюць большую частку першых двух дзён кінатрэнінгу Шпацыр па памяці, але іх можна праводзіць і паасобку.

Шмат з практыкаванняў выкарыстоўваюць прыклады помнікаў для ілюстрацыі. У якасці крыніц Вы можаце ўжываць адзін з існуючых фільмаў Шпацыру па памяці (гл. Бібліятэка), рэсурсы бібліятэкі Дапаможніка (с. 43) або звярнуцца да помнікаў з Вашай мясцовасці.

Для лаканічнасці мы будзем называць у Дапаможніку “настаўнікамі” тых, хто праводзіць практыкаванні, і “ўдзельнікамі” тых, хто прымае ў іх удзел. Аднак практыкаванні можна выкарыстоўваць не толькі ў фармальнай, але і ў нефармальнай адукацыі.

## Практыкаванне 1: Што гэты помнік азначае для цябе?

**Уводзіны**

### Мэта

1. *Настаўнікі могуць ацаніць узровень ведаў удзельнікаў пра помнікі і ўвекавечванне памяці;*

2. *Удзельнікі могуць сфармуляваць свае першыя асацыяцыі са словам “помнік” і выказаць свае меркаванні пра іх;*

3. *Актывуюцца папярэднія веды ўдзельнікаў пра помнікі.*

| Фармат | Матэрыялы | Час |
|---|---|---|
| Пленарная дыскусія | Стыкеры фліпчарт (ватман) ручкі | каля 15-20 хвілін |

### Крокі

1. Напішыце слова “помнік” у цэнтры ватману.
Падзяліце ўдзельнікаў па парах і дайце кожнай пары адзін або два стыкеры.
Папрасіце ўдзельнікаў падумаць у парах на працягу 1 або 2 хвілін над пытаннем: “Што гэты помнік азначае для цябе?”

2. Падкрэсліце, што кожная асацыяцыя добрая: гэта можа быць адчуванне, слова, думка, падзея, асоба і г.д. Удзельнікі павінны напісаць свае асацыяцыі адным-двума словамі на стыкерах.

3. Праз некалькі хвілін папрасіце ўдзельнікаў сабраць стыкеры.
Няхай яны прыклеяць іх вакол слова “помнік” на ватмане. Папрасіце іх прачытаць нататкі ўголас.

4. Спытайце групу пра тое, якія падабенствы і адрозненні, яны бачаць.
Падчас дыскусіі над вынікамі пастарайцеся згрупаваць асацыяцыі па тэмах, якія пазней будуць абмяркоўвацца на трэнінгу:
“гісторыя і памяць versus сучаснасць”, “эмоцыі versus гістарычныя падзеі”, “эстэтыка versus пасланне і досвед”.

### Акрамя таго

*Настаўнікі могуць зрабіць загадзя пленарны мазгавы штурм на тэму, з якім помнікам або якім тыпам помнікаў знаёмыя ўдзельнікі. Першым яго этапам можа быць гэтае практыкаванне, што будзе ўводзінамі ў тэму і надасць дынаміку мазгавому штурму ў кантэксце ўсяго трэнінгу. Мазгавы штурм пра “помнікі” можа быць занадта вялікім крокам для ўдзельнікаў у пачатку. Практыкаванне дапаможа настаўнікам акрэсліць, што такое помнік і чым ён не з’яўляецца.*

**Практыкаванне 2: Мой погляд ,твой погляд.**

**Уводзіны**

## Мэта

1. *Удзельнікі здольныя разважаць на базавым узроўні пра ўласнае стаўленне да помнікаў і звязаных з імі гісторый (г.зн. “гістарычную эмпатыю”);*
2. *Удзельнікі здольныя разважаць на базавым узроўні пра асабістыя погляды і веды пра пэўныя тэмы і/або помнікі.*

| Фармат | Матэрыялы | Час |
|---|---|---|
| Пленарная дыскусія | Стыкеры фліпчарт (ватман) ручкі | каля 15-20 хвілін |

## Крокі

1. Загадзя выберыце адзін ці лепш два помнікі для гэтага практыкавання (гл. прыклад ніжэй). Гэтыя помнікі павінны дазваляць розныя інтэрпрэтацыі, якія могуць, але не мусяць супярэчыць адзін аднаму.
2. Калі Вы выбралі больш чым адзін помнік, адпаведна падзяліце групу і/або помнікі. Прэзентуйце помнікі як мага карацей. Дайце кожнаму ўдзельніку аркуш паперы і папрасіце іх намаляваць мапу думак (гл. Малюнак 1), дзе цэнтральным пунктам будзе назва помніка.




Мал. 1. Прыклад, як рабіць мапу думак.
Крыніца: en.wikipedia.org ключавыя словы: ‘mind map’

Удзельнікі павінны дадаць свае ўласныя погляды, думкі, пачуцці, ідэі і веды пра гэты помнік. Тое, што яны дадаюць да гэтай мапы думак, не павінна абавязкова быць фактаграфічным, праўдзівым ці правільным.

**3.** Калі ўдзельнікі завяршаюць працу над мапамі думак, падзяліце групу на меншыя, у якіх будзе не больш за 4 асобы. Няхай удзельнікі ў меншых групах абмяркуюць свае мапы думак.
Калі Вы выбралі больш за адзін помнік, калі ласка, упэўніцеся, што кожны з помнікаў прадстаўлены ў меншых групах. Папрасіце ўдзельнікаў засяродзіць дыскусію на агульных рысах і адрозненнях паміж іх мапамі думак.

**4.** Пасля абмеркавання мапаў думак у малых групах, папрасіце аднаго з удзельнікаў прадставіць свае высновы ўсім. Абмяркуйце высновы з групай і пастарайцеся паразважаць глыбей пра розніцы і падабенствы. Падумайце пра іх прычыны, напрыклад, адлегласць у прасторы і/або ў часе да тэмы і/або розныя інтарэсы. Кажучы больш канкрэтна, настаўнікі могуць паставіць пытанне, як далёка насамрэч "мы" здольныя супаставіць сябе з гісторыямі і людзьмі, звязанымі з помнікамі.



**Прыклад**






Мал. 2. Дж. Г. Вертхейм. Помнік удзячнасці габрэяў (Амстэрдам 1950)
Крыніца: http://en.tracesofwar.com/article/7608/Memorial-Jewish-Gratitude.htm

Гэты помнік з'яўляецца прыкладам спрэчнага мемарыяла ў кантэксце Галандыі. Ён быў дарам гораду ад габрэйскай супольнасці Амстэрдама ў якасці ўдзячнасці за дапамогу (напрыклад, сховішча), якую атрымалі габрэі ад жыхароў Амстэрдама падчас Другой сусветнай вайны. Пасля адкрыцця помнік стаяў у цэнтральным месцы. Праз некалькі год яго перанеслі з цэнтральнай плошчы ў адносна непрыкметнае месца на вуліцы, дзе даволі актыўны транспартны рух. Гэты перанос меў практычныя прычыны, але быў абгрунтаваны таксама гістарычна.

Даследаванні гісторыкаў і публікацыі аповедаў сведак у 1990-я гг. прымусілі галандцаў змяніць погляд на сябе. Раней паўсюдным было меркаванне, што дацкае негабрэйскае насельніцтва амаль аднадушна ўдзельнічала ў супраціве падчас Другой сусветнай вайны. Аднак у 1990-я стала зразумела, што многія датчане-негабрэі супрацоўнічалі з нацысцкімі акупантамі ў экстрадыцыі габрэйскіх жыхароў. Акрамя таго, было дастаткова шмат "назіральнікаў", якія мелі ўласныя, вельмі розныя прычыны, каб не супрацьстаяць акупантам (падрабязней пра розныя ролі ахвяраў, памочнікаў, назіральнікаў і злачынцаў чытай на annefrank.org – ключавое слова: 'bystanders').

Такім чынам, напачатку помнік з'яўляўся выразам нацыянальнага гонару, аднак цяпер, адсунуты ўбок, без афіцыйнай шыльды і адпаведнага нагляду, ён стаў (часта несвядомым) сімвалам сораму.

Пытанне адносна гэтага помніка:
Якую інтэрпрэтацыю ты выбіраеш і па якой прычыне (якіх прычынах)?



**Практыкаванне 3: Камітэт па ўсталяванню помнікаў.**

**Уводзіны**

**Мэта**

1. *Удзельнікі пазнаёмяцца з рознымі фактарамі, якія трэба ўлічваць падчас аналізу помнікаў.*

2. *Удзельнікі ў творчай форме адлюструюць, якія гістарычныя тэмы з'яўляюцца важнымі для іх.*

| Фармат | Матэрыялы | Час |
|---|---|---|
| Праца ў міні-групах<br>Пленарная дыскусія | Папера, ручкі | каля 60-70 хвілін |

**Крокі**

1. Аб'яднайце ўдзельнікаў у групы па 3-5 чалавек. Папрасіце ўдзельнікаў уявіць, што кожная група - гэта камітэт па ўсталяванню помнікаў. Іх заданне - сфармуляваць крытэрыі ўсталявання новага помніка: якім крытэрыям павінна адпавядаць месца ўсталявання, тэма, знешні выгляд. Папрасіце, каб кожная група запісала гэтыя крытэрыі аркушы паперы. Збярыце аркушы з крытэрыямі. (15 хв.)

2. Удзельнікі застаюцца ў тых жа групах. Папрасіце іх уявіць, што яны - гэта ініцыятыўная група, якая хоча ўсталяваць помнік у сваім горадзе. Іх прапанова помніка павінна адпавядаць крытэрыям, якія распрацаваў камітэт.

Раздайце кожнай групе крытэрыі распрацаваныя іншай групай. Папрасіце ўдзельнікаў падрыхтаваць прэзентацыю выкананага задання згодна наступным пытанням: якія крытэрыі былі атрыманы? Якая мэта прапанаванага помніка? Дзе ён будзе размяшчацца? Пра што ён будзе? Як ён будзе выглядаць? (каля 20 хв.)

3. Кожная група прэзентуе свой помнік. Усе астатнія даюць зваротную сувязь, адказваюць на пытанні, ці адпавядае помнік крытэрыям, ці адпавядае месца і форма помніка мэце, якую ўдзельнікі заявілі. (25 хв.)



**Практыкаванне 4: Помнік шарада.**

**Уводзіны**

**Мэта**

1. *Удзельнікі ажыўлены;*
2. *Удзельнікі заангажаваныя ў тэму і ўзаемадзейнічаюць у атмасферы гульні*

| Фармат | Матэрыялы | Час |
| --- | --- | --- |
| Групы | Ручка і папера | каля 20 хв. |

**Крокі**

1. Да гэтага практыкавання трэба падыходзіць як да гульні-імправізацыі.
Удзельнікі дзеляцца на групы ад двух да чатырох чалавек.

2. Настаўнік піша на маленькіх кавалках паперы розныя прызначэнні помніка,
якія групы павінны паставіць/мадэліраваць.
Прызначэнні могуць быць адвольнымі, ад арыгінальных, прыдуманых
помнікаў да існуючых: напрыклад, Помнік кахання, Помнік чалавечай дурасці,
Помнік шчаслівага дзяцінства, Помнік вайны і страты, Помнік нацыянальнага сораму,
Помнік нацыянальным меншасцям, Помнік правам чалавека, Помнік перамозе і трыумфу і г.д.

**3.** За 5 хвілін групы павінны прыдумаць сваю фігуру помніка.
Затым яны ствараюць помнікі пры дапамозе сваіх целаў, у той час як рэшта ўдзельнікаў угадвае, што гэты помнік адлюстроўвае ці рэпрэзентуе.

**4.** За правільны адказ могуць давацца пункты. Калі ідэю ці агульную тэму адгадалі,
свой помнік можа паказваць наступная група, і г.д.

**5.** У канцы практыкавання настаўнік праводзіць кароткую дыскусію, чаму ўдзельнікі выбралі тую або іншую пазіцыю або жэсты. Наогул, ставіцца пытанне пра суб'ектыўнасць ва ўспрыманні помнікаў і іх інтэрпрэтацыі.

**Для мяне праект Memory Walk стаў добрай падставай задумацца пра калектыўную памяць гараджан увогуле. Чаму мінчукі, або жыхары іншых еўрапейскіх гарадоў добра «памятаюць» пра адны гістарычныя падзеі, звязаныя з іх горадам, і часта цалкам «забываюць» пра іншыя? Чаму адны гістарычныя помнікі ў горадзе выклікаюць цэлы шэраг асацыяцый і ўспамінаў, у той час як іншыя застаюцца невядомымі? Думаю, што важнасць такіх праектаў як Memory Walk заключаецца ў тым, што яны нагадваюць, што гісторыя – гэта не проста тое, пра што пішыцца ў школьных падручніках, але і тое, з чым мы сутыкаемся ў штодзённым жыцці, што фарміруе гарадскую прастору і ідэнтычнасць жыхароў таго ці іншага горада.**

**Яна Казачук,**
**Удзельніца праекта ў Мінску**



## Практыкаванне 5: Выклікі ўзвядзення помніка

**Асноўны змест**

### Мэта

1. *Удзельнікі могуць распазнаць і назваць іншыя шляхі і формы для ўвекавечвання памяці і мемарыялізацыі акрамя помнікаў.*

2. *Удзельнікі могуць распазнаць і адрозніць тых, хто памятае ад тых, пра каго памятаюць.*

3. *Удзельнікі могуць распазнаць пасланні і спрэчныя ідэі, якія стаяць за помнікамі.*

| Фармат | Матэрыялы | Час |
|---|---|---|
| Свайго роду лекцыя і/або праца ў групах і прэзентацыі | Прэзентацыя PowerPoint (https://goo.gl/PtZ2e0), праектар, ручкі і папера | каля 45 - 60 хвілін |

### Крокі

Гэтае практыкаванне можна правесці двума спосабамі:

1. як паўнавартасная лекцыя з прэзентацыяй PowerPoint або

2. як практыкаванне для працы ў групах.

Мы засяродзімся на практыкаванні для працы ў групах у надзеі, што яго тлумачэнне будзе таксама дастатковым для тых, хто выбірае PowerPoint лекцыю.

**1.** Прывядзіце прыклад помніка, які быў "у навінах" або мае важнае мясцовае значэнне. Можна таксама запрасіць лектара, які распавядзе пра той ці іншы помнік. Або можна распачаць практыкаванне з пытання, які помнік лічаць важным удзельнікі, і выбраць яго.
Прадстаўце помнік, засяроджваючыся на фактаграфічных звестках: Чаму ён быў пабудаваны? Хто ініцыяваў і фінансаваў яго стварэнне? Які дызайн мае помнік і ў якім месцы ён размешчаны? Ці мае ён спрэчныя гісторыі?
У сувязі з тым, што гэты помнік — адзіны прыклад таго, як ён мог бы выглядаць, папрасіце ўдзельнікаў прыдумаць іншыя варыянты, карыстаючыся мазгавым штурмам.

**2.** Падзяліце групу на 5 меншых груп. Кожная група правядзе мазгавы штурм на адну з прыведзеных ніжэй тэмаў. У сувязі з тым, што тэмы дастаткова складаныя і абстрактныя, можна даць групам нататкі з падказкамі для разважанняў і малюнкамі розных помнікаў.
Дайце кожнай групе ватман, каб яны маглі зрабіць мапу думак (гл. практыкаванне 2) або праілюстраваць свае ідэі.



**Група 1: "Чаму людзі будуюць помнікі і ці гэтая гісторыя пра мінулае важная сёння?"**

Падумайце пра магчымыя прычыны (напрыклад, уплыў вайны, страта членаў сям'і, фармаванне нацыі) і важнасць помнікаў. Ці яны датычаць толькі мінулага ці таксама сучаснага?

**Група 2: "Хто будуе помнік і якое пасланне хоча перадаць?"**

Падумайце пра палітыкаў, ахвяр/выжыўшых, ветэранаў, мастакоў і актывістаў. Падкрэсліце, што гэтыя ролі наўрад ці зафіксаваныя або яны з'яўляюцца адзінкавымі. У кантэксце пасланняў падумайце пра жалобу, выхаванне, перасцярогу, абвінавачванне і г.д.

**Група 3: "Якія іншыя суб'екты маюць значэнне для будаўніцтва помніка?"**

Падумайце пра фундатара, мясцовыя ўлады, мастака і/або архітэктара.

**Група 4: "Якія ёсць іншыя шляхі, каб памятаць пра вайну ці канфлікт?"**

Падумайце пра магілкі, разбураныя будынкі, а таксама падручнікі па гісторыі, фільмы, музеі, кнігі і сямейныя гісторыі.

**Група 5: "Якія могуць быць адрозненні ў выглядзе і размяшчэнні помніка і што яны азначаюць?"**

Падумайце пра розніцу паміж абстрактным і фігуратыўным мастацтвам, а таксама сапраўдным і сімвалічным месцапалажэннем. Таксама падумайце пра помнікі, што знаходзяцца ў заняпадзе.

**Група 6:** **“Чаму і як некаторыя помнікі могуць быць аспрэчаныя?**
**або: Чаму пабудаваць помнік часамі цяжка?”**

Падумайце пра эмоцыі, пачуцці і досвед вайны, якія могуць мець людзі. Таксама важна абмеркаваць тое, што некаторыя суб’екты могуць быць зацікаўленымі, каб распавесці (ці схаваць) гісторыю, што стаіць за помнікам (напрыклад, палітыкі), у выніку чаго могуць з’явіцца “адсутныя” помнікі, якія ніколі не будуць пабудаваныя.

**3.** Няхай кожная група прадставіць вынікі мазгавога штурму і абмяркуе свае ідэі з усімі. Выкарыстоўвайце PowerPoint, каб праілюстраваць некаторыя тэмы.

**Практыкаванне 6: Біяграфія помніка**

**Асноўны змест**

**Мэта**

**1.** *Удзельнікі здольныя прааналізаваць эстэтыку помніка, яго прадстаўленую гісторыю і пасланне адпаведна з інструкцыяй Шпацыру па памяці.*

**2.** *Удзельнікі здольныя прадставіць калегам вынікі свайго аналізу у фармаце, які яны абяруць, адказваючы на пытанні пра тое, што новага яны даведаліся, называючы адрозненні і падобныя рысы да “свайго” помніка.*

**3.** *Удзельнікі здольныя зразумець, што працэс увекавечвання ўніверсальны, але кожны помнік належыць да спецыфічнага гістарычнага і палітычнага кантэксту.*



| Фармат | Час |
|---|---|
| Праца ў групах і прэзентацыі | каля 60-120 хв. |

**Матэрыялы**

Чыстыя аркушы, каляровыя ручкі, алоўкі і/або іншыя канцылярскія прылады. У залежнасці ад магчымасцей інфармацыю ўдзельнікі могуць атрымаць з інтэрнэту або, напрыклад, з газетных выразак, падрыхтаваных настаўнікам.

**Крокі**

**1.** Зрабіце выбарку ад трох да пяці помнікаў, якія будуць у цэнтры ўсёй асноўнай часткі Шпацыру па памяці. Удзельнікі дзеляцца на групы прыблізна па 5 чалавек.

**2.** Удзельнікі будуць даследаваць свае помнікі пры дапамозе інструкцыі Шпацыру па памяці (гл. ніжэй). Засяродзьце ўвагу асабліва на параўнанні адрозненняў і падобных рысаў паміж (нацыянальнымі і замежнымі) помнікамі.

**3.** Удзельнікі робяць прэзентацыю (у адвольнай форме) свайго помніка на падставе сваіх даследаванняў. Яны выкарыстоўваюць інфармацыю, якую знайшлі пры дапамозе інструкцыі, і звяртаюць асаблівую ўвагу на адказы на наступныя пытанні:

• Што новага вы даведаліся пра свой помнік? І што вы даведаліся, або што ведалі раней пра прадстаўленую гісторыю?

• Якія (інтэр)нацыянальныя адрозненні вы знайшлі паміж сваім помнікам і іншымі, з якімі параўноўвалі?

• Якія (інтэр)нацыянальныя падобныя рысы вы знайшлі падчас параўнання з іншымі помнікамі?

**4.** Удзельнікі прадстаўляюць свае помнікі. Слухачы рыхтуюць пытанні да выступоўцаў. Падчас дыскусіі і пазней пастарайцеся звярнуць увагу на эстэтыку, пасланне помніка, розныя і падобныя рысы паміж помнікамі.

**Інструкцыя Шпацыру па памяці**

_A. Гісторыя_

**1.** Якая гістарычная падзея або гістарычная асоба прадстаўлена? Адкуль гэта бачна?

_B. Будова_

**2.** Хто быў ініцыятарам узвядзення помніка?

**3.** Як адбываўся працэс прыняцця рашэння?

**4.** Калі помнік быў пабудаваны?

**5.** У якім (сацыяльным, эканамічным і/або палітычным) кантэксце быў збудаваны помнік?

**6.** Хто або якая інстанцыя фінансаваў/ла выраб і ўсталяванне помніка?

**7.** Калі, як і кім быў адкрыты помнік?



_C. Функцыя_

**8.** Дзе знаходзіцца помнік? Напрыклад, у сапраўдным месцы ці ў сімвалічным, схаваны або знаходзіцца на вельмі відным месцы…

**9.** Якую форму, выгляд ці дызайн мае помнік? Напрыклад, абстрактную ці фігуратыўную, традыцыйную ці сучасную...

**10.** Якія сімвалы помнік (не) выкарыстоўвае? Напрыклад, рэлігійныя, палітычныя, гендэрныя, класавыя, гістарычныя, мастацкія, эмацыйныя сімвалы…

**11.** Ці ёсць там надпіс, знак або шыльда? Што на ім (не) сказана?

**12.** Ці ёсць (скрытыя) пасланні да гледача? Напрыклад, уключэнне гледача ў гісторыю ці выключэнне з яе, перадача гонару ці сораму, адмова ці выхаванне…

**13.** Для каго ці супраць каго быў задуманы помнік?
Напрыклад, для (або супраць) ахвяраў, віноўнікаў, памочнікаў, назіральнікаў…

**14.** Хто з’яўляецца адрасатам помніка і адкуль мы ведаем гэта?
Напрыклад, мясцовая мова (мовы) для мясцовых людзей, замежныя мовы для турыстаў…

15. Ці помнік узаемадзейнічае з гледачом? Напрыклад, прымушаючы глядзець уверх/уніз, абыходзіць навокал, дакранацца/не дакранацца…

16. Якія (мясцовыя ці замежныя) помнікі Ты можна было б параўнаць з Тваім помнікам? У чым адрозненні? У чым падобныя рысы? Як Ты патлумачыш гэтыя адрозненні і падобныя рысы?

*D. Адказы & Погляды*

17. Ці помнік выклікаў (або выклікае) грамадскія дыскусіі ці супярэчнасці? Хто заангажаваны ў гэтыя дэбаты і чаму? Якія ёсць розныя пункты гледжання і крытыка? На ваш погляд, чаму яны ўспрымаюць помнік так, як успрымаюць?

18. Ці выгляд і/або пасланне помніка змянялася з цягам часу?
Якім чынам?

19. Як помнік выглядае сёння? Напрыклад, ён пашкоджаны, забяспечаны, занядбаны, забыты ці пра яго добра клапоцяцца…

20. Ці выкарыстоўваецца помнік падчас (афіцыйных) святаў і/або іншых (палітычных) акцый?

21. Ці з'яўляецца помнік часткай штодзённага жыцця і ці наведваюць яго?
Калі так, то як ён выкарыстоўваецца? Калі не, то чаму на ваш погляд ён забыты?



## Практыкаванне 7:
## Кароткаметражныя фільмы (відэаролікі) Шпацыру па памяці

**Асноўны змест**

**Мэта**

1. *Удзельнікі здольныя крытычна ацаніць гатовыя відэаролікі Шпацыру па Памяці і абмяркоўваць іх з калегамі.*

2. *Удзельнікі здольныя паўтарыць базавую схему звычайнага відэароліка Шпацыру па Памяці і выкарыстаць (часткі) гэтай схемы для ўласнага фільма.*

| Фармат | Матэрыялы | Час |
|---|---|---|
| Праца ў групах і прэзентацыі | Ноўтбукі, ручкі і папера (напрыклад, блакноты) | каля 45-60 хв. |

**Крокі**

1. Падзяліце групу на 5 меншых груп або пакіньце групы, якія былі створаны падчас практыкавання 5 (гл. ст. 13).
Кожная група будзе даследаваць відэаролікі Шпацыру па Памяці, створаныя ў пэўнай краіне ці рэгіёне.

2. Вызначце краіну ці рэгіён для кожнай групы. Дзеля гэтага паглядзіце канал YouTube Дома Анны Франк на youtube.com - ключавыя словы: 'anne frank house memory walk'. Зрабіце выбарку, каб мець узаемныя спасылкі, напрыклад, па тэме "супраціў".

3. Кожная група глядзіць прызначаны ёй відэаролік. У час прагляду ўдзельнікі вывучаюць гісторыю, прадстаўленую помнікам. Можна зноў карыстацца Інструкцыяй, але ў гэтым практыкаванні не абавязкова адказваць на ўсе пытанні — толькі на пытанні, на якія можна даць адказ на падставе відэакліпу.

4. Удзельнікі глядзяць відэаролік яшчэ раз, але цяпер яны звяртаюць увагу на розныя меркаванні, што выказваюцца ў фільме. Яны звяртаюць асаблівую ўвагу на тое, якую ролю эстэтыка і (відавочнае) пасланне помніка адыгрываюць у фармаванні розных меркаванняў.

5. Фаза даследавання скончана, удзельнікі пераходзяць да падрыхтоўкі прэзентацыі сваіх адкрыццяў. У прэзентацыях яны павінны адказаць на наступныя пытанні:

• На ваш погляд у чым значэнне, мэта ці пасланне помніка?

• Што вы можаце сказаць пра дызайн і размяшчэнне помніка?

• На якія групы і на якіх людзей разлічаны помнік?

• Якія розныя меркаванні вы заўважылі у фільме? Якія меркаванні ці погляды вы не пачулі і не ўбачылі?



Падумайце, напрыклад, пра людзей, “зарыентаваных на будучыню”, або пра стратэгіі адмаўлення, напрыклад, пра палітыкаў, якія імкнуцца замаўчаць/схаваць пэўную гісторыю. Таксама можна падумаць пра маладых людзей, якія не адчуваць сябе звязанымі з гісторыяй. Што вы самі, асабіста, думаеце пра гэты помнік?

6. Групы прадстаўляюць свае знаходкі і заканчваюць пленарнай дыскусіяй.

**Практыкаванне 8: Адзін помнік, дзесяць меркаванняў**

**Асноўны змест**

**Мэта**

1. *Удзельнікі здольныя распазнаць і назваць розныя грамадскія суб’екты і розныя групы людзей, заангажаваныя ў будаўніцтва помнікаў.*

2. *Удзельнікі здольныя даць базавае тлумачэнне або базавы аповед для пэўных (супрацьлеглых) аргументаў, тэорый і пунктаў гледжання адносна пабудовы помнікаў.*

| Фармат | Матэрыялы | Час |
|---|---|---|
| Праца ў групах і прэзентацыі | Ноўтбукі, вялікія аркушы паперы, каляровыя ручкі, алоўкі і канцылярскія прыналежнасці | каля 45-60 хв. |

**Крокі**

1. Надрукуйце карткі з суб'ектамі (гл. ніжэй і на вэб-старонцы HIP).

2. Зноў падзяліце ўдзельнікаў на меншыя групы па 4-5 чалавек або працуйце ў групах, утвораных у практыкаванні 5.

3. Дайце кожнай групе іншы фільм Шпацыру па памяці як крыніцу для натхнення або дазвольце групам прыдумаць у мазгавым штурме нейкую гістарычную падзею, з якой яны (у пэўнай меры) знаёмыя і ў гонар якой хочуць паставіць помнік. Для гэтага практыкавання не мае значэння, ці гэтая падзея ўжо мае помнік.

4. Раздайце карткі суб'ектаў удзельнікам. Кожная група павінна мець свой набор картак суб'ектаў. Дайце кожнай групе матэрыялы для працы.

5. Папрасіце ўдзельнікаў спачатку абмеркаваць помнік, прытрымліваючыся ролі, якую яны выцягнулі. Удзельнікі павінны казаць са "свайго" пункту гледжання. Яны могуць быць творчымі і выкарыстоўваць фантазію, але таксама могуць выкарыстоўваць меркаванні, якія пачулі ў фільмах Шпацыру па Памяці.

6. Пасля дыскусіі ў кроку 5 кожная група павінна пачаць "будаваць" свой помнік, прымаючы ва ўвагу ўдзел розных суб'ектаў. Яны павінны быць здольнымі адказаць на наступныя пытанні і запісаць вынікі на плакаце (гэта можна зрабіць любым творчым спосабам):



• Якое меркаванне (майго суб'екта) пра гэты помнік?

• Адкуль вам прыйшла ідэя пра гэты помнік?

• Па якой прычыне вы выбралі гэты помнік?

• Якія выбары вы зрабілі і чаму?

Які выбар не быў уключаны ў канчатковы план?

Дзе будзе збудаваны помнік?

• Якое будзе пасланне?

• Як будзе фінансавацца ўзвядзенне помніка?

• Як ён будзе выглядаць?

• Якая будзе цырымонія пры адкрыцці?

7. Кожная група прэзеньуе плакаты пра свае помнікі.

## Карткі суб'ектаў



### ГРАМАДЗЯНІН

Ты з'яўляешся сведкам гісторыі, якая павінна быць увекавечана.

Падумай пра сваё стаўленне да гэтага помніка. Ты ахвяра, сведка, назіральнік ці вінавайца падзей, у якіх ты ўдзельнічаў? Або маеш некалькі роляў?

Памятай пра тое, хто ты і што Ты: напрыклад, мужчына ці жанчына, малады ці стары, належыш да большасці ці меншасці (напрыклад, расавай, этнічнай, ЛГБТ), якую палітычную арыентацыю маеш.



### ГРАМАДЗЯНІН

Ты змагаўся як прафесійны салдат у часе гістарычнай падзеі, што павінна быць увекавечанай.

Падумай пра сваё стаўлення да гэтага помніка. За каго ці супраць каго ты змагаўся? Ты перамог ці пераможаны?

Памятай пра тое, хто ты і што Ты: напрыклад, мужчына ці жанчына, малады ці стары, належыш да большасці ці меншасці (напрыклад, расавай, этнічнай, ЛГБТ), якую палітычную арыентацыю маеш.



## Карткі суб'ектаў



### ТУРЫСТ

Ты незнаёмы з нацыянальнай гісторый, якая ўвекавечваецца, але ў Тваёй краіне ёсць уласны помнік прысвечаны той жа гістарычнай падзеі.

Уяві сабе, што бачыш гэты помнік упершыню. Што б Ты падумаў пра яго?
Ці пазнаў бы Ты адразу, якая падзея на ім прадстаўлена? І якое яго пасланне?

Памятай пра тое, хто ты і што Ты: напрыклад, мужчына ці жанчына, малады ці стары, належыш да большасці ці меншасці (напрыклад, расавай, этнічнай, ЛГБТ), якую палітычную арыентацыю маеш.



### СУСЕД

Ты жывеш побач з тым месцам, дзе будуецца помнік. Гэта значыць, што Ты сустракаешся з гэтай гісторыяй кожны дзень.

Падумай, ці Ты згаджаешся з размяшчэннем гэтага помніка. Ты хацеў бы бачыць яго кожны дзень? Што адчуваеш адносна таго, як ён выглядае?

Памятай пра тое, хто ты і што Ты: напрыклад, мужчына ці жанчына, малады ці стары, належыш да большасці ці меншасці (напрыклад, расавай, этнічнай, ЛГБТ), якую палітычную арыентацыю маеш.



**АКТЫВІСТ**

Ты палітычна актыўны і хацеў бы, каб нешта сталася з помнікам.

Падумай пра тое, ці Ты б хацеў (і чаму), каб гэты помнік стаяў, каб ён быў знішчаны або быў збудаваны абсалютна новы помнік.

Памятай пра тое, хто ты і што Ты: напрыклад, мужчына ці жанчына, малады ці стары, належыш да большасці ці меншасці (напрыклад, расавай, этнічнай, ЛГБТ), якую палітычную арыентацыю маеш.



**МАСТАК або АРХІТЭКТАР**

Ты дызайнер (размяшчэння) помніка.

Падумай пра тое, ці Ты маеш асабістае стаўленне да помніка або Ты цалкам нейтральны? Якую мэту Ты хочаш дасягнуць пры дапамозе гэтага дызайну?

Памятай пра тое, хто ты і што Ты: напрыклад, мужчына ці жанчына, малады ці стары, належыш да большасці ці меншасці (напрыклад, расавай, этнічнай, ЛГБТ), якую палітычную арыентацыю маеш.



**Карткі суб’ектаў**



**МЭР**

Ты мэр горада, дзе будуецца помнік.

Падумай пра розныя групы, якія хочуць дасягнуць свае ўласныя мэты пры дапамозе гэтага помніка. Ты знаходзіш баланс паміж імі або кіруешся ўласным курсам?

Памятай пра тое, хто ты і што Ты: напрыклад, мужчына ці жанчына, малады ці стары, належыш да большасці ці меншасці (напрыклад, расавай, этнічнай, ЛГБТ), якую палітычную арыентацыю маеш.



**ГІСТОРЫК**

Ты даследчык гісторыі, якую ўвекавечвае гэты помнік.

Падумай пра тое, што важна для Цябе як гісторыка? Ты шукаеш гістарычнай дакладнасці і праўды ці больш грамадска-істотных рэчаў?

Памятай пра тое, хто ты і што Ты: напрыклад, мужчына ці жанчына, малады ці стары, належыш да большасці ці меншасці (напрыклад, расавай, этнічнай, ЛГБТ), якую палітычную арыентацыю маеш.

## Прыктыкаванне 9: Мой ідэальны помнік

**Асноўны змест**

### Мэта

1. *Удзельнікі здольныя творча працаваць над тэмай помнікаў;*

2. *Удзельнікі здольныя ўвасобіць уласныя ідэі ў стварэнні альтэрнатыўнага наратыву;*

3. Удзельнікі здольныя разважаць на падставовым узроўні пра ўласны ўдзел і адказнасць у адносінах да ўзвядзення помнікаў.

| Фармат | Матэрыялы | Час |
|---|---|---|
| Індывідуальная праца / праца ў групах і прэзентацыі | Каляровыя ручкі і (вялікія) аркушы (магчыма гліна) | каля 45-60 хв. |

### Крокі

1. Дайце кожнаму ўдзельніку вялікі аркуш паперы і/або гліну і папрасіце іх намаляваць, зрабіць мапу думак, зляпіць з гліны ці напісаць, як бы выглядаў іх ідэальны помнік (калі б яны мелі ўсе грошы свету). Гэта можа быць паляпшэнне існуючага помніка або пабудова цалкам новага – яны самі выбіраюць, якую гістарычную падзею ці асобу яны хочуць увекавечыць.



2. Прымацуйце ўсе плакаты на сцяну (або пакажы ўсе злепленыя з гліны помнікі на стале) і зрабіце галерэю плакатаў/помнікаў. Папрасіце ўдзельнікаў прадставіць іх працу. У прэзентацыі яны павінны адказаць на пытанні:

   • Чаму вы выбралі менавіта гэтую гістарычную падзею ці асобу?

   • Якое пасланне вы хочаце перадказаць гэтым помнікам?

3. Пасля таго як усе прадставяць свой ідэальны помнік, вы можаце павесці дыскусію пры дапамозе наступных пытанняў:

   • Ці думаеце, што вы, як маладыя асобы, павінны мець уплыў на тое, якія помнікі будуць будавацца? Чаму/чаму не?

   • Ці маладыя людзі агульна маюць меркаванне адносна помнікаў? Ці павінны мець?

4. Можаце зрабіць падсумаванне пры дапамозе мазгавога штурму на тэму, як удзельнікі могуць быць актыўнымі ва ўласным асяроддзі.

**Прыктыкаванне 10: Дэбатуючы пра помнікі**

**Асноўны змест**

### Мэта

1. *Удзельнікі практыкуюць навыкі свайго крытычнага мыслення ў дэбатах.*
2. *Удзельнікі разумеюць шматлікія перспектывы дадзенай праблемы і здольныя спрачацца ці бараніць іх, незалежна ад іх уласнага стаўлення ці меркавання па тэме.*
3. Удзельнікі здольныя разважаць на падставовым узроўні пра ўласны ўдзел і адказнасць у адносінах да ўзвядзення помнікаў.адносінах да ўзвядзення помнікаў.

| Фармат | Час |
|---|---|
| Дэбаты розных фарматаў, якія можна выкарыстоўваць з відэаролікамі | Розны (розныя формы дэбатаў, розная даўжыня практыкаванняў). Падказка: падрыхтоўка групы = 10 хв.; прэзентацыя аргументаў па 1 хв. на выступ (разам прыблізна 10 хв.); настаўнік падсумоўвае або папраўляе (3 хв.) = разам, прыблізна 20 хв. |

**Матэрыялы**

Тэмы для дэбатаў (гл. каментарыі на ст. 53 пра відэафільмы на DVD і прапанаваныя пытанні дэбатаў)напрыклад, з газетных выразак, падрыхтаваных настаўнікам.



### Крокі

1. Папрасіце ўдзельнікаў палічыцца ўголас. Затым падзяліце клас на цотныя нумары з аднаго боку, і няцотныя з другога. Прызначце пазіцыі ЗА і СУПРАЦЬ абодвум бакам.
2. У кожнай групе яны павінны назваць 3 асноўныя аргументы для свайго боку.
3. Папрасіце іх абмеркаваць фільм, які яны толькі што глядзелі ці звязанае з ім пытанне. Для мадэратара важна, каб усе ўдзельнікі прытрымліваліся сваіх роляў, г.зн. выступалі за той бок, які яны прадстаўляюць (незалежна ад уласнага меркавання). Яны прадстаўляюць свае аргументы ў наступным парадку:

**I** Група ЗА, аргумент 1

**II** Група СУПРАЦЬ адказвае на ЗА1, прыводзіць аргумент СУПРАЦЬ1

**III** Група ЗА адказвае на аргумент СУПРАЦЬ1, прыводзіць аргумент ЗА2

**IV** Група СУПРАЦЬ адказвае на ЗА2, прыводзіць аргумент СУПРАЦЬ2

**V** Група ЗА адказвае на СУПРАЦЬ2, прыводзіць ЗА3 аргумент

**VI** Група СУПРАЦЬ адказвае на ЗА3, прыводзіць аргумент СУПРАЦЬ3

**VII** Група ЗА падсумоўвае дэбаты, кажучы, чаму яны перамаглі

**VIII** Група СУПРАЦЬ падсумоўвае дэбаты, кажучы, чаму яны перамаглі

### Акрамя таго

*Пры дапамозе мяккага мячыка ці плюшавай цацкі прытрымлівайцеся правіла “гаворыць толькі той, хто трымае мячык” (акрамя мадэратара). Кіньце мячык групе ЗА і папрасіце нейкага прадставіць аргумент ЗА на тэму дэбатаў. Пасля гэтага яны кідаюць мяккі мяч выпадкова каму-небудзь (або таму, хто хоча сказаць) з групы СУПРАЦЬ. Тыя прыводзяць аргумент у адказ. Потым яны перадаюць мячык каму-небудзь з групы ЗА. Мячык перадаецца да таго часу, пакуль выказваюцца арыгінальныя аргументы, гэта значыць, ёсць правіла: вы не можаце паўтараць тое, што ўжо было сказана, а павінны назваць нешта новае, прывесці арыгінальную аргументацыю* ***(Час: не больш за 15 хв. для тэмы дэбатаў)***

### Прыктыкаванне 11: Мясцовая экскурсія па помніках

**Хатняе заданне**

**Мэта**

1. Удзельнікі больш ведаюць пра сваю мясцовасць у агульным і наяўнасць помнікаў у прыватнасці,
2. Удзельнікі засяроджаны на тэме і яны ведаюць тэму на базавым узроўні.

| Фармат | Матэрыялы | Час |
|---|---|---|
| Індывідуальная праца / праца ў групах і прэзентацыі | Камера, ноўтбук, ручка, папера | Хатняя праца: 90 хв. (даследаванне) У класе: 45 хв. (прэзентацыя) |



**Крокі**

1. Папрасіце кожнага ўдзельніка знайсці найбліжэйшы помнік у сваёй мясцовасці і даследаваць яго (ці онлайн, ці праз размову з бацькамі і/або ахоўнікамі).
2. Яны павінны зрабіць фотаздымкі ці знайсці онлайн тыя, што можна выкарыстаць у прэзентацыі.
3. Удзельнікі прадстаўляюць свае помнікі (праз слайд-шоў прэзентацыю ці плакат). Дыскусія можа датычыць таго, якія адрозненні і падобныя рысы яны ўбачылі ў эстэтыцы, размяшчэнні і пасланні помніка.

### Акрамя таго

*Гэтае практыкаванне таксама падыходзіць як уводнае практыкаванне, каб пазнаёміць удзельнікаў з тэмай і актывізаваць іх ранейшыя веды.*

### Прыктыкаванне 12: Вусная гісторыя помніка

**Хатняе заданне**

**Мэта**

1. *Удзельнікі ведаюць і могуць распавесці асабістыя гісторыя датычныя помнікаў;*
2. *Удзельнікі раскрываюць меркаванні людзей з “рэальнага жыцця” пра помнікі.*

| Фармат | Матэрыялы | Час |
|---|---|---|
| Праца ў групах і прэзентацыі | Ноўтбук, мабільны тэлефон, камера, дыктафон ці любы іншы запісваючы дэвайс | У класе: 45 хв. (падрыхтоўка) + 45 хв. (прэзентацыі) Хатняе заданне: 90 хв. (даследаванне ў хаце) |

**Крокі**

1. Зрабіце спіс помнікаў, да якіх удзельнікі могуць мець лёгкі доступ.
Ёсць два варыянты гэтага практыкавання:
(а) удзельнікі ў групах наведваюць помнік і праводзяць інтэрв'ю з мінакамі пра значэнне, пасланне помніка і меркаванні пра яго,
(b) у парах удзельнікі праводзяць інтэрв'ю са сведкам, архітэктарам ці іншым суб'ектам, які мае дачыненне да дадзенага помніка.

2. Падчас падрыхтоўкі ўдзельнікі вывучаюць помнік (выкарыстоўваючы інструкцыю на ст. 14) і рыхтуюць (адкрытыя) пытанні для інтэрв'ю пра помнік, якім яны займаюцца.

3. У якасці хатняга задання ўдзельнікі наведваюць помнік/эксперта і запісваюць (на тэлефон ці камеру) інтэрв'ю. Трэба заахвоціць удзельнікаў звяртацца з пытаннямі да розных людзей. Удзельнікі павінны быць падрыхтаванымі, асабліва ў пост-канфліктным асяроддзі, што яны могуць сустрэцца з (негатыўнымі) рэакцыямі людзей.

4. Няхай удзельнікі падрыхтуюць мультымедыя прэзентацыю і пакажуць яе ў класе.



**Акрамя таго**

*Сабраны матэрыял можа быць выкарыстаны ў Практыкаванні 7:*
*Адзін помнік, дзесяць меркаванняў (гл. ст. 16).*

### Аб'ядноўваючы мінулае і сучаснасць

Рашэнні адносна помнікаў часта прымаюцца нацыянальнымі ўрадамі. Яны бачаць помнік як эфектыўны сродак, каб распавесці пра гісторыю нацыі і стварыць пачуццё нацыянальнасці. Гэта можна лёгка пераўтварыць у маніпуляванне мінулым, яго аднабаковае прадстаўленне ці нават злоўжыванне ім. Трэнінг Шпацыр па Памяці скіраваны на тое, каб даць удзельнікам веды і інструменты дзеля ўсведамлення гэтых працэсаў. Яны вучацца параўноўваць розныя мясцовыя і нацыянальныя помнікі, каб бачыць адрозненні паміж імі, а таксама іх падобныя рысы. Гэты параўнальны падыход, аднак, выклікае рызыку зменшыць унікальнасць кожнага помніка. Таму вельмі важна захоўваць баланс.

### Набыццё практычных навыкаў



Праз уключэнне стварэння фільмаў у якасці аднаго з галоўных кампанентаў праграмы гісторыя становіцца даступнай для сучаснасці. Удзельнікі вучацца агучваць уласныя погляды. Гэта падтрымлівае іх заангажаванасць у такія складаныя тэмы і дапамагае прадстаўляць звычайна зафіксаваныя гісторыі помнікаў больш творчым спосабам.

### Шматлікасць перспектыў асабістых гісторый

!

Патрабаванне ад удзельнікаў падыходу, які ўключае шматлікасць перспектыў да гісторыі, прадугледжвае адкрытасць Вашых уласных перспектыў і выбараў як настаўніка.

Якія выбары помнікаў Вы робіце? Якія прыклады Вы ўключыце, а якія не? Чаму? За Вашымі выбарамі стаіць логіка, магчыма нават палітычная ці ідэалагічная. Кожная перспектыва мае свае мажлівасці і абмежаванні, і некаторыя перспектывы могуць быць узаемна супярэчлівымі. Старайцеся быць шчырым і празрыстым у адносінах да ўдзельнікаў і сваіх уласных выбарах і перспектывах, таму што гэта можа выклікаць дыскусію. У той жа час, будзьце ўважлівым, каб не дазволіць адной перспектыве адмяніць іншыя.

### Аб'ядноўваючы краіны

Важным аспектам Шпацыру па Памяці з'яўляецца акцэнт на ролі і адказнасці ўдзельнікаў. Гэта дае ім магчымасць прадстаўляць помнікі і ўласныя гісторыі сваімі словамі. Адзін са спосабаў ажыццявіць гэта — даць удзельнікам максімальны кантроль над матэрыялам, з якім яны працуюць: якія помнікі яны хочуць даследаваць, з кім яны хочуць праводзіць інтэрв'ю, якімі метадамі яны хочуць карыстацца падчас прэзентацыі сваіх знаходак.

## Заўвагі

## Апісанне відэаролікаў, якія былі створаны ў межах праекта Шпацыр па памяці ў Беларусі

### 1. Помнік ахвярам Мінскага гета

**http://bit.ly/2jGUhgx**

**Пра што гэты помнік?**

Помнік ахвярам Мінскага гета, якія былі расстраляны ва ўрочышчы Тучынка, быў адкрыты 23 кастрычніка 2008 г. (у 65-ю гадавіну яго знішчэння) недалёка ад Кальварыйскіх могілак. Прыкладна на гэтым месцы падчас акупацыі Мінска нацыстамі было забіта больш за 14.000 чалавек. Масавыя расстрэлы адбываліся таксама ў іншых раёнах горада. У Мінску знішчаліся як мясцовыя габрэі, так і габрэі з Заходняй, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Усяго тут нацысты забілі каля 100 000 чалавек.

Помнік у былым мінскім прыгарадзе - гэта дзве вялікія гранітныя глыбы з надпісам на 4 мовах: ідыш, рускай, іўрыце і беларускай - "Каля гэтага месца ў 1941-1943 гг. фашысты расстралялі больш за 14 000 вязняў Мінскага гета". Паміж глыбамі заціснуты фігуры людзей. Аўтарам праекта з'яўляецца Леанід Левін, помнік стваралі скульптары Е. Хараберуш, Л. Пакульніцкі і М. Пятруль.

**Якія былі дылемы або спрэчкі датычныя гэтага помніка?**

Да вайны паблізу вёскі Тучынка размяшчаўся штаб НКУС і калонія. Менавіта сюды прывозілі рэпрэсаваных людзей у 1937-1938 гг. Нацыстамі будынкі былі перароблены пад турму і месца экзекуцыі, тут, у тым ліку, адбываліся расстрэлы.

Па сённяшні дзень не ўдалося ўстанавіць дакладнае месца расстрэлаў, таму што ландшафт у пасляваенны час пастаянна змяняўся, а пытанне ўвекавечвання ахвяр не падымалася. Нават у сучасны перыяд, калі ў ваколіцах будаваўся новы квартал, ішла дыскусія пра тое, ці не будзе ён знаходзіцца на чалавечых костках.

Цікавым і неадназначным з'яўляецца выбар месца для памятнага знака - побач з Кальварыйскімі могілкамі. Варта адзначыць, што на саміх могілках у брацкай магіле былі пахаваны 3 000 вязняў гета і каля 200 салдат Савецкай арміі, таксама ёсць пахаванні вайскоўцаў напалеонаўскай арміі, палонных аўстрыйскіх салдат, якія загінулі падчас Першай сусветнай вайны; польскіх салдат, загінуўшых у гады савецка-польскай вайны 1919—1920 гг.; ахвяр савецкага тэрору, палітыкаў, паэтаў, мастакоў.

***Прапанаваныя пытанні для абмеркавання пасля прагляду відэа***

**1.** Ці можа помнік усталёўвацца без дакладнай прывязкі да месца пахавання і ці выконвае ён тады сваю функцыю, ці дарэчная такая фармуліроўка "Каля гэтага помніка..."?

**2.** На месцы пахаванняў будаваліся дамы, пракладваліся камунікацыі, мяняўся рэльеф, а сам помнік з'явіўся толькі праз 65 гадоў пасля падзей, пра якія нагадвае. Як Вы лічыце, што можна зрабіць сёння, каб захаваць памяць пра гэта месца, нягледзячы на ўсе змены?

**3.** Зыходзячы з адказаў рэспандэнтаў у кліпе растлумачце, якую ролю выконвае помнік, і з якой мэтай ён быў усталяваны, ці можа такі помнік прадухіліць нянавісць і пераслед меншасцей?

**4.** Ці мае якое-небудзь значэнне тое, што помнік знаходзіцца паблізу могілак, дзе таксама ёсць пахаванні ахвяр?

Ці могуць самі па сабе Кальварыйскія могілкі быць мемарыялам для розных груп ахвяр? Калі так, то як гэта забяспечыць?

**Дадатковы матэрыял для чытання/хатняе заданне**

Тимоти Снайдер
"Кровавые земли: Европа между Гитлером и Сталиным"

**http://bit.ly/2jZaoGX**

Спасенная жизнь: жизнь и выживание в Минском гетто
Материалы учебного пособия для учителей

**http://bit.ly/2ktCe1Q**




**2. Мемарыяльная шыльда на месцы пакарання мінскіх падпольшчыкаў у Мінску**

**http://bit.ly/2jGUhgx**

Адразу пасля акупацыі Мінска нацысты пачалі праводзіць палітыку запужвання, каб папярэдзіць любы супраціў. 26 кастрычніка 1941 г. упершыню на акупаванай тэрыторыі СССР у Мінску адбылося паказальнае пакаранне 12 падпольшчыкаў, якія былі павешаны ў розных месцах групамі па тры чалавекі. На ўваходзе ў дрожджавы завод павесілі падпольшчыкаў, якія дапамагалі параненым савецкім вайскоўцам збегчы з палону.



26 кастрычніка 1941 г. упершыню на акупаванай тэрыторыі СССР у Мінску адбылося паказальнае пакаранне 12 падпольшчыкаў, якія былі павешаны ў розных месцах групамі па тры чалавекі. На ўваходзе ў дрожджавы завод павесілі падпольшчыкаў, якія дапамагалі параненым савецкім вайскоўцам збегчы з палону. На ахвярах былі шыльды з надпісам: "Мы - партызаны, якія стралялі ў германскіх салдат". Момант пакарання гэтых трох падпольшчыкаў здымаўся на фотакамеру. Пазней гэтыя фотаздымкі сталі вядомымі ўсяму свету і былі аднымі з дакументальных доказаў на Нюрнбергскім працэсе.

Аднаго з пакараных - Кірыла Труса - яшчэ падчас вайны апазнала яго жонка, калі фотаздымак з'явіўся ў газеце. Другога - Уладзіміра Шчарбацэвіча - апазналі ў сярэдзіне 1960-х гг. У 1965 г. абодва былі пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені. Трэцяя пакараная падпольшчыца ў афіцыйных дакументах доўгі час лічылася як невядомая.






У савецкі час на сцяне прахадной Мінскага дрожджавага завода была ўсталявана мемарыяльная шыльда з тэкстам: «Тут 26 кастрычніка 1941 года фашысты пакаралі савецкіх патрыётаў К.І. Труса, У.І. Шчарбацэвіча і дзяўчыну - /прозвішча не выяўлена/». На барэльефе адлюстраваны твары трох пакараных падпольшчыкаў. 9 лютага 2008 г. Мінскі гарвыканкам прыняў рашэнне ўнесці змены ў тэкст. У ліпені 2009 г. надпіс на памятнай шыльдзе быў абноўлены, замест невядомай дзяўчыны было напісана імя Машы Брускінай.




**Якія былі дылемы або спрэчкі датычныя гэтага помніка?**

У 1968 г. журналісты з Мінска і Масквы правялі незалежна адны ад другіх расследаванні, яны вывучылі архіўныя матэрыялы і сведчанні тых, хто ведаў падпольшчыкаў і памятаў абставіны пакарання. У выніку яны высветлілі імя пакаранай дзяўчыны. Гэта была 17-гадовая мінчанка Маша Брускіна.

Але на афіцыйным узроўні гэты факт не быў прызнаны. Аўтары расследавання былі заклеймаваны і звольнены з працы. Верагодна, гэта было звязана з тым, што Маша Брускіна была габрэйкай.

А ў партыйных колах у той перыяд дамінаваў антысемітызм, асабліва ў сувязі з палітыкай СССР на Блізкім Усходзе. Доўгі час грамадскасць, у тым ліку габрэйскія абшчыны ў Мінску і за мяжой дамагаліся афіцыйнага ўшанавання імя Марыі Брускінай. І гэта стала магчыма толькі ў 2009 г. Пры гэтым у экспазіцыі нядаўна абноўленага Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, дзе захоўваюцца арыгінальныя фотаздымкі, імя Машы Брускінай не ўзгадваецца.

**Прапанаваныя пытанні для абмеркавання пасля прагляду відэа**

**1.** Якое асноўнае пасланне памятнай шыльды, з якой мэтай яна была ўсталявана і якое ўспрыманне гэтага помніка было ў жыхароў БССР і ў наш час?

Параўнайце гэты помнік з помнікамі, прысвечанымі партызанам у Італіі, што ёсць агульнае і што адрознае? (ніжэй спасылкі на відэа).

**2.** Як Вы лічыце, ці дастаткова інфармацыі прадстаўлена на памятнай дошцы? Калі не, то што б Вы яшчэ дадалі?

**3.** Чаму для габрэйскай абшчыны было так важна ўзгадванне Марыі Брускінай, нягледзячы на тое, што ў тэксце не ўказваецца яе нацыянальнасць?

**4.** Два падпольшчыкі, якіх пакаралі былі

падлеткамі, што на Ваш погляд гэта азначае ў кантэксце ўспрымання тэмы вайны?

**5.** Ці з'яўляецца актуальнай фармуліроўка «савецкія патрыёты»?

Ці патрэбна яе памяняць?

Чаму?



**Дадатковы матэрыял для чытання/хатняе заданне**

Відэа:

Memory Walk - Monument dedicated to the partizans in Piazza Maggiore (англійскіе субтытры):

**http://bit.ly/2kI2zMW**

Д/ф Казнён в сорок первом (1967):

**http://bit.ly/2jGRaVX**

Артыкул: “Почему у белорусской героини Маши Брускиной отнято имя?”:

**http://bit.ly/2kX2dMr**

## 3. Помнік ахвярам Халакосту ў Брэсце

**http://bit.ly/2jAczVf**

Брэст і памежная Брэсцкая вобласць былі ў ліку першых захопленых гітлераўцамі тэрыторый СССР. Горад быў заняты нямецкімі войскамі ў першы дзень вайны – 22 чэрвеня 1941 г. Габрэі вобласці, за рэдкім выключэннем, эвакуіравацца не паспелі. З пачатку акупацыі яны павінны былі насіць павязкі з выявай шасціканцовай бела-чырвонай зоркі. Быў выдадзены цэлы шэраг загадаў, які рэгламентаваў прававы стан, жыццё і побыт гараджан. Летам і восенню 1941 г. па загаду акупацыйных улад адбывалася адабранне золата і іншых каштоўных металаў у габрэйскага насельніцтва. 16 снежня 1941 г. габрэі Брэста і бліжэйшых мястэчак былі загнаны ў гета. У перыяд з 15 кастрычніка да 18 кастрычніка 1942 г. Брэсцкае гета было цалкам знішчана.

Помнік ахвярам Халакосту ў Брэсце быў усталяваны паблізу месца першага масавага расстрэлу, які адбываўся на могілках на вуглу вуліц Маскоўскай і Доўгай (Куйбышава), у двары дома №126. Большая частка людзей была знішчана 15 кастрычніка 1942 г. каля чыгуначнай станцыі Бронная гара Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці.






**Якія былі дылемы або спрэчкі датычныя гэтага помніка?**

У пасляваеннай Беларусі, які ва ўсім СССР, катастрофа габрэйскага насельніцтва і трагедыя брэсцкіх габрэяў замоўчваліся з ідэалагічных прычын. На месцах масавых пахаванняў будавалі дамы і дарогі. У 1974 г. помнік ахвярам гета ў раёне вуліцы Куйбышава быў знесены. Толькі ў 1992 г. ён быў адноўлены за сродкі габрэяў з ЗША, Аргенціны і Ізраіля. Амаль кожны год, пачынаючы з 2002г., помнік, які знаходзіцца ў цэнтры горада неаднаразова станавіўся аб'ектам апаганьвання. На ім з'яўляліся свастыкі і пагражаючыя надпісы, падпальваліся вянкі. Вінаватыя так і не былі знойдзены.

**Прапанаваныя пытанні для абмеркавання пасля прагляду відэа.**

**1.** Багатая габрэйская гісторыя Брэста ніякім чынам не ўвекавечана ў публічнай прасторы, як можа паўплываць гэты помнік на яе ўспрыманне жыхарамі горада?

**2.** З якой прычыны ўсталяванне помніка фінансавалася габрэйскімі абшчынамі ЗША, Аргенціны, Ізраіля?

Ці павінны гарадскія ўлады і грамадскасць горада ініцыяваць стварэнне такіх мемарыялаў?

Чаму гэта не адбылося ў дадзеным выпадку?

**3.** Хто павінен адказваць за культурную спадчыну і памяць габрэйскіх, польскіх, літоўскіх жыхароў Брэста?

Што можна зрабіць, каб памяць пра іх захоўвалася?

**4.** Часта помнікі ахвярам Халакосту становяцца аб'ектам апаганьвання, што гэта азначае?




**Дадатковы матэрыял для чытання/хатняе заданне**
Відэа:

1. Брэсцкае гета:

**http://bit.ly/2k3hWv5**

2. Брэст, габрэйская абшчына:

**http://bit.ly/2kVl0Lh**

3. Электронная еврейская энциклопедия - Брест:

**http://bit.ly/2kZKwen**

4. Где Бресту найти нового Варбурга?:

**http://bbc.in/2kWWiqC**



## 4. Помнік У.І. Леніну ў Брэсце

**http://bit.ly/2kX5vil**

Плошча Леніна афіцыйна з'явілася на мапе Брэста ў 1948 г. Да вайны, калі горад уваходзіў у склад Польшчы, галоўная плошча насіла імя аднаго з герояў паўстання 1863 г. Рамуальда Траўгута. У 1939 - 1941 гг. плошча называлася таксама як вуліца, на якой знаходзілася – 17 верасня. Менавіта ў гэты дзень Чырвоная армія перайшла мяжу з Польшчай і заняла Заходнюю Беларусь. Падчас нямецкай акупацыі 1941 - 1944 гг. плошча насіла імя Адольфа Гітлера.

Помнік Леніну на плошчы быў усталяваны ў 1958 г., яго аўтары: скульптар М. Ластачкін і архітэктар – Г. Заборскі. Фігура Леніна, які выцянуў руку наперад, знаходзіцца на шасціметровым пастаменце. Помнікі Уладзіміру Леніну ў СССР былі неад'емнай часткай савецкай традыцыі манументальнага мастацтва. З аднаго боку яны ўвекавечвалі памяць пра заснавальніка бальшавіцкай партыі, з другога - з'яўляліся сродкам прапаганды ідэй камуністычнага ладу. Помнікі Леніну мелі функцыю актыўнага грамадскага ўздзеяння, што праяўлялася ў сэнсавай нагрузцы манументаў, а таксама ў месцах іх размяшчэння, як правіла, там, дзе збіралася вялікая колькасць людзей: у парках, на галоўных гарадскіх плошчах, асабліва побач з адміністратыўнымі будынкамі.

**Якія былі дылемы або спрэчкі датычныя гэтага помніка?**

На прыступках будынка Палескага ваяводства (абласны выканаўчы камітэт) на сучаснай плошчы Леніна камандзір 29-й танкавай брыгады Чырвонай арміі Сямён Крывашэін разам з камандуючым 19-м армейскім корпусам германскай арміі генералам Гайнцам Гудэрыянам прымалі сумесны савецка-нямецкі ваенны парад 22 верасня 1939 г.



**Якія былі дылемы або спрэчкі датычныя гэтага помніка?**

На приступках будынка Палескага ваяводства (абласны выканаўчы камітэт) на сучаснай плошчы Леніна камандзір 29-й танкавай брыгады Чырвонай арміі Сямён Крывашэін разам з камандуючым 19-м армейскім корпусам германскай арміі генералам Гайнцам Гудэрыянам прымалі сумесны савецка-нямецкі ваенны парад 22 верасня 1939 г. У гэты дзень адбывалася афіцыйная працэдура перадачы горада Брэста і Брэсцкай крэпасці савецкім войскам. Мерапрыемствы ўрачыстым спускам нямецкага і падняццем савецкага сцягоў.

Рука Леніна на помніку паказвае ў накірунку Крыжаўзвіжанскага касцёла, што часта заўважаюць мясцовыя жыхары. У 1948 г. храм быў закрыты, у яго памяшканнях у 1950-1990 гг. дзейнічаў краязнаўчы музей. Зараз гэта дзеючы каталіцкі касцёл.

**Прапанаваныя пытанні для абмеркавання пасля прагляду відэа**

**1.** Зыходзячы з меркаванняў рэспандэнтаў скажыце, якую функцыю адыгрывае помнік і што азначае яго размяшчэнне на галоўнай плошчы горада?

**2.** Што ведаюць пра Уладзіміра Леніна маладое пакаленне, якое вырасла ў незалежнай Беларусі? Якое значэнне гэта асоба для іх мае? Як фарміруюцца іх погляды пра рэвалюцыю і савецкае мінулае?

**3.**У выпадку, калі ў Беларусі, як у шматлікіх іншых постсавецкіх краінах будзе адбывацца дэкамунізацыя, ці магчыма будзе змяніць сэнс помніка Леніну захаваўшы яго? Што ў такой сітуацыі варта зрабіць з вуліцай і плошчай Леніна? Прывядзіце варыянты.

**4.**Улічваючы, што на плошчы Леніна адбываўся сумесны нямецка-савецкі парад (адна з ключавых падзей Другой сусветнай вайны), ці варта памятаць пра гэта, калі так, то якім чынам? Якія супярэчнасці могуць быць звязаныя з гэтай падзеяй?

**5.**Хто можа быць супраць таго, што помнік Леніну знаходзіцца на галоўнай плошчы?

**6.**Што Вы думаеце пра размяшчэнне побач з помнікам Леніну касцёла? Ці бачыце Вы якія-небудзь кантраверсіі ў гэтым?





**Дадатковы матэрыял для чытання/хатняе заданне**

Відэа:

1. Савецкі міф пра Леніна:

**http://bit.ly/2ktOPBT**

2. Скульптурная лeнініана:

**http://bit.ly/2jAIUMX**

3. “У белорусского Ленина нос сияет”:

**http://bit.ly/2jZjwLL**

4. В Минске торжественно открыли восстановленный памятник Ленину:

**http://bbc.in/2jZ21LS**

5. Виталий Огиенко, Декоммунизация. Опыт Восточной Европы:

**http://bit.ly/2kl6XLT**

## 5. Мемарыяльны комплекс “Курган Славы” ў Гродне

**http://bit.ly/2kWZN0q**

Закладка Кургана Славы ў Гродне адбылася 17 верасня 1968 г., а ўрачыстае адкрыццё праходзіла праз год - 17 верасня 1969 г. (на святкаванне 30-годдзя далучэння Заходняй Беларусі да БССР). На ўсходнюю ўскраіну горада побач з праспектам Касманаўтаў была прывезена зямля з розных раёнаў Гродзенскай вобласці, з брацкіх пахаванняў вайскоўцаў Чырвонай арміі і партызан, магіл Герояў Савецкага Саюза, якія былі пахаваныя на тэрыторыі Гродзенскай вобласці, усяго з 83 месцаў. Курган Славы быў насыпаны ў памяць “змагароў за савецкую ўладу, якія загінулі ў гады кастрычнікай рэвалюцыі і грамадзянскай вайны, у барацьбе “за ўз’яднанне Заходняй Беларусі з БССР”, а таксама савецкіх вайскоўцаў, партызан і падпольшчыкаў, якія аддалі сваё жыццё за перамогу над фашызмам у гады Вялікай Айчыннай вайны”. Курган мае форму сьцятага конуса, яго вышыня складае 18 м, дыяметр падножжа - 56 м, верхняй часткі - 5 м. Курган увянчае кола, на знешняй плоскасці якога адлюстраваны вянок са стылізаваных лістоў і пяціканцовых зорак. З усходняга боку Кургана знаходзіцца плошча для правядзення мітынгаў. Злева каля падножжа Кургана – вечнае полымя з мемарыяльнымі плітамі, на якіх высечаны назвы воінскіх частак і тэкст “За вызваленне горада і крэпасці Гродна”.

З усходняга і паўночнага бакоў знаходзяцца дзве невысокія сцяны з надпісамі: “Жизнью своею равненье на павших героев держи” і “Бессмертная слава героев умножится в славе потомков” а таксама тэкст “Светлай памяці герояў, якія аддалі сваё жыццё за савецкую ўладу. Ад удзячных нашчадкаў 17.09.1969”. Да Кургана вядуць дзве шырокія лесвіцы.






**Якія былі дылемы або спрэчкі датычныя гэтага помніка?**

Да 70-годдзя Перамогі мемарыяльны комплекс быў рэканструяваны. Пры гэтым усе надпісы захаваліся, нягледзячы на тое, што помнік ствараўся амаль 50 гадоў таму ў кантэксце савецкай мемарыялізацыі. У той час, калі дакументы, што датычацца падпісання СССР Пакта Молатава-Рыбентропа, падзей савецка-польскай вайны ў 1919-1920 гг., а таксама сталінскіх рэпрэсій даўно сталі вядомымі і ў шматлікіх краінах пераасэнсаваны. Пасля рэканструкцыі была абноўлена і папоўнілася новымі экспанатамі экспазіцыя ваеннай тэхнікі. Прадстаўленая сучасная зброя актыўна прапагандуе мілітарызм, што мае неадназначны сэнс на месцы памяці загінуўшых у войнах. У 2016 г. комплекс планавалі дапоўніць так званай “Лініяй Карбышава” - абарончымі збудаваннямі 1940 - 1941 гг.

**Прапанаваныя пытанні для абмеркавання пасля прагляду відэа**

**1.**Якое ўражанне робіць мемарыяльны комплекс? У сувязі з гэтым, якое можна зрабіць меркаванне пра мэту гэтага помніка? Ці з'яўляецца гэта мэта актуальнай сёння?

**2.**Якія каштоўнасці і якое значэнне мае помнік для жыцця горада і фарміравання ідэнтычнасці яго жыхароў?

**3.**Якое стаўленне да мемарыялу ў рэспандэнтаў? Ці адрозніваюцца адносіны да помніка ў людзей у залежнасці ад узросту? Чаму?

**4.**З якой мэтай размешчана ваенная тэхніка побач з Курганам? Чым можна растлумачыць ваенныя цырымоніі і выкарыстанне тэхнікі ў савецкіх месцах памяці? Як гэта адбываецца ў сучаснай Беларусі і чаму?

**5.**Паглядзіце відэа з Сараева (Боснія і Герцагавіна). Што агульнае і рознае маюць мемарыяльныя комплексы ў Босніі і Гродне? Якое стаўленне людзей да мемарыялаў? Па якім прычынам помнік у Босніі не дзейнічае, а ў Гродне працягвае функцыянаваць? Хто адказвае за тое, каб помнік функцыянаваў?

**6.**Прачытайце тэкст артыкула пра стаўленне польскага журналіста да Кургана Славы. Чаму дата 17 верасня выклікае абурэнне?






Што можна зрабіць, каб пазбегнуць такіх сітуацый? Хто з рэспандэнтаў закрануў гэту тэму?

У каго яшчэ дадзены помнік выклікае непрыманне?

Якім чынам магчыма ўлічваць інтарэсы розных груп?

Ці магчыма змяніць функцыю помніка, накіраваную на прымірэнне і асэнсаванне ? Калі так, то якім чынам?

Прачытайце матэрыял пра размяшчэнне шыльдаў з гістарычнымі назвамі вуліц у Гродне, што Вы думаеце пра гэту ініцыятыву?



**Дадатковы матэрыял для чытання/хатняе заданне**

1.Польскі журналіст пра святкаванне 17 верасня:

**http://bit.ly/2jZc6bD**

2.На вуліцах Гродна павесяць шыльды з іх гістарычнымі назвамі:

**http://bit.ly/2kX6107**

3.Memory Walk - Vraca Memorial Park (англійскіе субтытры):

**http://bit.ly/2k3jxRn**

4.Memory Walk - The Fallen Soldiers Monument (англійскіе субтытры):

**http://bit.ly/2kX15bK**








**6. Памятная шыльда на ўваходзе ў былое гета ў Гродне**

**http://bit.ly/2kX818E**

Падчас Другой сусветнай вайны ў Гродне нацысты арганізавалі два гета, у якіх утрымлівалася мясцовае габрэйскае насельніцтва. У гета № 1 пасялілі кваліфікаваных працоўных, у гета № 2 — «непрадуктыўных» габрэяў. Гета № 1 знаходзілася ўздоўж вуліцы Замкавая. На месцы галоўнага ўвахода на яго тэрыторыю ў сакавіку 1992 г. па ініцыятыве былых вязняў Фелікса Зандмана, Саламона Жукоўскага, Рыгора Хасіда і Лізы Чапнік паўстаў Памятны знак, побач з якім пазней была зроблена сімвалічная брама.

Праз гэту браму тысячы ахвяр накіроўваліся на чыгуначную станцыю Гродна, адкуль іх адпраўлялі ў лагеры смерці (размешчаныя ў асноўным на тэрыторыі акупаванай Польшчы). Забойствы габрэяў адбываліся і ў гета: каля харальнай сінагогі, на старых габрэйскіх могілках. Гродзенскае гета было цалкам ліквідавана 12 сакавіка 1943 г. З наступнага дня горад быў абвешчаны «свабодным ад габрэяў». Гродзенскае гета было адным з самых вялікіх у Еўропе. У 1941 г. у Гродне жылі 30 тысяч габрэяў, гэта палова насельніцтва горада. Усяго за час існавання гета ў Гродне праз яго прайшло каля 42 тысяч чалавек. Падчас вайны нацыстамі былі забіты 29 тысяч габрэяў-жыхароў Гродна.

**Якія былі дылемы або спрэчкі датычныя гэтага помніка?**

У першыя гады пасля вызвалення горада каля двух тысяч габрэяў вярнуліся ў Гродна. Аднак жыццё габрэйскай абшчыны не было адноўлена. Сінагога была зачынена. Яе памяшканні выкарыстоўваліся пад склад, творчыя майстэрні гродзенскіх мастакоў. Толькі ў 1991 г. будынак сінагогі быў вернуты габрэйскай абшчыне. Зараз сінагога знаходзіцца на рэстаўрацыі. Пры гэтым яна выкарыстоўваецца для малітоўных службаў. Таксама ў адным з яе памяшканняў праходзяць розныя публічныя мерапрыемствы, выставы, канцэрты. Тут жа дзейнічае музей гісторыі габрэяў у Гродне.

У савецкі час былі ліквідваны габрэйскія могілкі. На іх месцы быў пабудаваны стадыён.

Каля памятнай шыльды штогод праходзяць дні памяці ахвяраў Халакосту. У 2014 г. прадстаўнікі габрэйскай абшчыны выступалі з ініцыятывай усталяваць помнік гродзенскім габрэям-ахвярам Халакосту каля вялікай харальнай сінагогі.



**Прапанаваныя пытанні для абмеркавання пасля прагляду відэа**

**1.**Як Вы лічыце ці дастаткова толькі дадзенай памятнай шыльды для ўвекавечвання памяці ахвяр Халакосту?

Ці патрэбен яшчэ асобны помнік?

Калі так, то ў якім месцы, і як бы ён мог выглядаць?

Хто павінен/можа ініцыяваць яго стварэнне?

**2.**Ці згодны Вы з меркаваннем аўтараў роліка пра тое, што шыльда была абліта фарбай неанацыстамі?

Хто на Ваша меркаванне мог здзейсніць такі ўчынак і чаму?





**3.**Адзін з рэспандэнтаў сказаў, што “вандалізм будзе да таго часу, пакуль грамадства будзе дазваляць гэта рабіць”, як Вы разумееце яго словы?

Якая рэакцыя жыхароў Гродна магла бы быць гэтаму прыкладам?

**4.**У відэа гаворыцца пра тое, што палову жыхароў даваеннага Гродна складалі габрэі, паспрабуйце ўявіць сабе, як гэта ўплывала на жыццё горада. Як выглядае Гродна сёння і што змянілася з даваеннага часу?

**5.**Паглядзіце ролік з Балоны, што агульнае ў двух помнікаў? Што агульнае і рознае ў гісторыі Халакосту двух краін, чым гэта абумоўлена?

У апошняй частцы відэа з Балоны рэспандэнты параўноўваюць, дзе ахвяры Халакосту пакутавалі больш, як Вы лічыце, ці з’яўляецца прымальным такое параўнанне?

У якіх сітуацыях яшчэ можна пачуць падобныя параўнанні?

**Дадатковы матэрыял для чытання/хатняе заданне**

1. Memory Walk - Room of Memories (англійскіе субтытры):

**http://bit.ly/2k3dVXs**

2. Марш памяти. Гродненские евреи вспомнили узников гетто:

**http://bit.ly/2kI4bGr**

3. Успамін пра страшныя дні (фотографии с открытия памятной таблички):

**http://bit.ly/2jZkfNb**

4. Анлайн-мапа гродзенскага гета з фотаздымкамі:

**http://bit.ly/2jZhYI1**

5. Гарадзенскія яўрэі - ім не было куды ўцякаць:

**http://bit.ly/2jZhXNZ**

6. Гарадзенскія габрэі, што перажылі вайну, вяртаюцца на Радзіму. Дзве гісторыі выжыўшых:

**http://bit.ly/2jAgPo2**

7. Хронология ликвидации евреев в Гродно:

**http://bit.ly/2kVhyjU**



## 7. Брацкая магіла савецкіх ваеннапалонных у скверы на вул. Талбухіна

**http://bit.ly/2kVIRLV**

Памятнае надмагілле з чырвонага граніту ўстаноўлена ў 1963 г. на месцы брацкай магілы ў скверы на вул. Талбухіна ў Мінску. На цэнтральнай пліце магілы на беларускай мове напісана: «Тут пахавана больш 10 тысяч савецкіх воінаў, партызан і мірных грамадзян закатаваных і расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941-1944 гг.». Злева ад надмагілля знаходзяцца ўсталяваныя нядаўна пліты са спісамі прозвішчаў некаторых з пахаваных (спіс папаўняецца і ўдакладняецца). Падчас акупацыі Мінска на гэтым месцы размяшчаўся адзін з філіялаў Мінскага канцлагера для савецкіх ваеннапалонных – шталаг № 352 "Выстава", які дзейнічаў амаль 3 гады, пачынаючы з ліпеня 1941 г. Лагер знаходзіўся ў летніх павільёнах і на адкрытай прасторы на тэрыторыі даваеннай Сельгасвыставы. Зараз на гэтым месцы размяшчаецца гадзіннікавы завод «Прамень», які пачалі будаваць у канцы 1953 г., а ў 1979 г. быў узведзены яго галоўны корпус (ён бачны з праспекта Незалежнасці). Падчас будаўніцтва завода знаходзілі астанкі савецкіх ваеннапалонных. На тэрыторыі былога лагера сёння таксама знаходзіцца станцыя метро «Парк Чалюскінцаў» (з яе пачалі будаваць Мінскі метрапалітэн, таксама знаходзілі чалавечыя астанкі). Лагерны шпіталь размяшчаўся ў недабудаваным перад вайной доме № 93 на вул. Пушкінскай (зараз гэта жылы дом пад № 93 на праспекце Незалежнасці).

**Якія былі дылемы або спрэчкі датычныя гэтага помніка?**

Ваеннапалонных у СССР у першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі называлі здраднікамі, якія парушылі прысягу і вайсковы статут.

Загінуўшым ваеннапалонным не ставілі помнікі, не аднаўлялі гісторыю былых лагераў, дзе яны знаходзіліся.

На брацкай магіле на вул. Талбухіна напісана, што ў ёй пахавана больш за 10 000 чалавек, але не ўзгадваецца пра тое, што гэта былі савецкія ваеннапалонныя, не пазначана месца іх смерці. Па адной з версіі сюды ў 1950-х гг. перанеслі астанкі палонных, якія знайшлі падчас будаўніцтва карпусоў гадзіннікавага завода, а таксама шматлікіх забітых, што знайшлі ў ваколіцах горада. На карпусах і будынках завода пра тое, што тут быў лагер ніякім чынам не пазначана. Паводле звестак гісторыкаў і дакументаў акрамя пахаванняў на вул. Талбухіна памерлых ад сыпнога тыфу, восенню-зімой 1941 - 1942гг. палонных хавалі ў брацкай магіле каля дома №91 на праспекце Незалежнасці. Па сённяшні дзень невядома, ці ёсць там астанкі, ці яны былі эксгумаваны і перанесены ў іншае месца. Зараз гэта тэрыторыя не абазначана.

Насупраць былога канцлагера “Выстава” знаходзіцца парк Чалюскінцаў, у якім таксама былі пахаваны 10 000 ваеннапалонных гэтага лагера. У 1950-я гг. на месцы магілы быў усталяваны помнік. Але на ім няма ніякай інфармацыі пра ваеннапалонных, няма нават колькасці пахаваных. У парку ў першыя пасляваенныя гады знаходзіліся баракі, дзе жылі палонныя немцы, якія аднаўлялі Мінск. Памерлых нямецкіх палонных хавалі на гэтым жа месцы.

Перад вайной на далёкай ускраіне Камароўскага леса (перайменаваны ў парк Чалюскінцаў) НКУС расстрэльваў рэпрэсаваных жыхароў Беларусі. Яны таксама былі пахаваны тут (дакладнае месца і колькасць расстраляных невядомыя). У іх памяць група актывістаў паставіла крыж у парку.






**Прапанаваныя пытанні для абмеркавання пасля прагляду відэа**

**1.**Як Вы лічыце, з якіх прычын і з якой мэтай у першыя пасляваенныя гады савецкае кіраўніцтва абвяшчала ваеннапалонных здраднікамі, а памяць загінуўшых у палоне не ўвекавечвалася?

Прааналізуйце і параўнайце дадзены помнік з Абеліскам на плошчы Перамогі ў Мінску (гл. спасылку ніжэй). Што агульнае і рознае ў гэтых помніках?

**2.**На прыкладзе дадзенага помніка растлумачце, якія дзеянні з боку ўладаў і грамадскасці ажыццяўляюцца сёння для мемарыялізацыі ахвяр вайны?

**3.**Хто павінен/мог бы прадстаўляць інтарэсы савецкіх ваеннапалонных?

**4.**Як Вы лічыце, ці можа на месцах пахавання размяшчацца парк культуры і адпачынку?
Якія правілы паводзін павінны быць у такіх месцах?

**5.**Улічваючы тое, што побач знаходзяцца некалькі месцаў пахаванняў, таксама будынкі звязаныя з лагерам для ваеннапалонных, месцы пахаванняў ахвяр сталінскіх рэпрэсій, як можна абазначыць гэту тэрыторыю і што можна/трэба зрабіць для больш зразумелага і комплекснага інфармавання мясцовых жыхароў?

**Дадатковы матэрыял для чытання/хатняе заданне**

1. Абеліск Перамогі:

**http://bit.ly/2ktQEin**

2. "Минск старый и новый" Городское отделение STALAG 352 - минский лагерь военнопленных AUSSTELLUNG (ВЫСТАВКА) на бывшей Пушкинской улице:

**http://bit.ly/2kw128L**

**http://bit.ly/2ktJpa6**

**http://bit.ly/2kvJyJP**

**http://bit.ly/2kVhUXM**

**http://bit.ly/2kZVQqQ**



**8. Мемарыяльны комплекс Яма ў Мінску**

**http://bit.ly/2kX2miG**

Мемарыял памяці габрэяў, якія загінулі ў Мінскім гета ў гады Другой Сусветнай вайны знаходзіцца на месцы масавага пахавання ахвяр, расстраляных падчас аднаго з пагромаў нацыстаў 2 сакавіка 1942 г. Тады было забіта пяць тысяч чалавек. Людзей прывозілі вялікімі групамі да рову на ўскрайку гета і расстрэльвалі. Целы звальвалі ў яму.

Комплекс уяўляе сабой глыбокую яму, на дне якой знаходзіцца абеліск з чорнага граніту, створаны ён са старога габрэйскага надмагілля. На абеліску на рускай мове і ідыш напісана: "...Светлая память на светлые времена пяти тысячам евреев, погибших от рук лютых врагов человечества - фашистско-немецких злодеев. 2.03.1942 г..." Ён быў усталяваны ў 1946 г. Гэта быў першы і доўгі час адзіны помнік ахвярам Халакосту ва ўсім Савецкім Саюзе. Апроч таго гэты помнік быў першы ў СССР з надпісам на мове ідыш.

У 1993 г. каля Ямы была пасаджана каштанавая алея Праведнікаў народаў свету. Кожнае дрэва падпісана імёнамі Праведнікаў. Сёння алея налічвае больш за дзесяць дрэў. З часам увекавечваюцца імёны ўсіх беларусаў, якія пад страхам смерці выратоўвалі габрэяў.

У 2000 г. абеліск і сквер былі дапоўнены бронзавай скульптурнай кампазіцыяй «Апошні шлях» з 27 бронзавымі фігурамі, якія размешчаны ўздоўж лесвіцы, што вядзе да цэнтра мемарыялу. Гэта кампазіцыя ўяўляе сабой групу асуджаных пакутнікаў, якія спускаюцца на дно ямы. Перад абеліскам знаходзіцца круглая пляцоўка з чорнай брусчаткі. Скульптурная кампазіцыя стваралася 8 гадоў архітэктарам Леанідам Левіным і скульптарамі А.Фінскім і Э.Полакам.

Падчас выканання прац у сувязі з тым, што тут знаходзяцца астанкі тысяч забітых, не выкарыстоўвалася тэхніка. Усё рабілася ўручную. Некалькі разоў у год на гэтым месцы адбываюцца памінальныя жалобныя мерапрыемствы, арганізаваныя габрэйскай абшчынай горада і дыяспарай.



**Якія былі дылемы або спрэчкі датычныя гэтага помніка?**

Помнік ствараўся з ініцыятывы і за грошы групы мінскіх габрэяў, якія перажылі Халакост, з дазволу Галоўліта(Галоўнае кіраўніцтва па справах літаратуры і выдавецтваў). Але затым каменячос Мардэхай Спрышан і паэт Хаім Мальцінскі (аўтар надпісу на абеліску) былі арыштаваны і высланы ў лагеры па абвінавачванню ў «касмапалітызму — праяўленню габрэйскага буржуазнага нацыяналізму», у тым ліку за тое, што адважыліся напісаць на помніку не ўніверсальную фразу пра «мірных савецкіх грамадзян», а пра габрэяў.



Нягледзячы на пратэсты габрэйскай грамадскасці, да канца 1960-х гг. помнік знаходзіўся пад пастаяннай пагрозай зносу. А жалобныя мерапрыемствы адбываліся пад кантролем міліцыі і КДБ.

**Прапанаваныя пытанні для абмеркавання пасля прагляду відэа**

**1.**Пасля стварэння помніка некаторыя ініцыятары былі рэпрэсаваны, а тэма Халакосту ў СССР не агалошвалася. Як Вы лічыце, ці трэба дапоўніць гэтай інфармацыяй мемарыял або гэта ніякім чынам не датычыцца тэмы дадзенага помніка? Як па-іншаму можна ўвекавечыць памяць гэтых людзей?

**2.**Побач з мемарыяльным комплексам знаходзіцца шматпавярховы жылы дом. Як Вы думаеце, што могуць адчуваць яго жыхары? Ці могуць будавацца дамы ў непасрэднай блізкасці ад масавых пахаванняў? Чаму так і чаму не?

**3.**У савецкі перыяд кожны год габрэйская абшчына Мінска праводзіла жалобныя мітынгі каля помніка. Якая роля такіх мерапрыемстваў у кантэксце захавання памяці і традыцый нацыянальнай групы?

**4.**Чаму ў СССР тэма захавання памяці ахвяр Халакосту кантралявалася органамі бяспекі? Ці можа дзяржава кантраляваць стварэнне такога кшталту мемарыял?



**Дадатковы матэрыял для чытання/хатняе заданне**

1. Леонид Левин: "К вопросу о мемориализации мест массового уничтожения жертв Холокоста на территории Беларуси":

**http://bit.ly/2kvHLV2**

2. Прыкладная тэрыторыя Мінскага гета на сучаснай мапе Мінска:

**http://bit.ly/2kVpoKh**

3. Дакументальны фільм "Хроника минского гетто":

**http://bit.ly/2kVmsgN**

4. ТЭСТ. 10 фактаў пра зьнішчэньне «Вялікага гета» ў Менску:

**http://bit.ly/2kVrIAK**



5. Рэпартажы пра жалобныя мерапрыемствы памяці вязняў Мінскага гета:

**http://bit.ly/2kkMQ0h**

